Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 25 (4774) 27 чэрвеня 2014 г.



Багдановіч, рэалісты і святая пілігрымка 7



Скарынава слова — у спадчыну 9



Газеты, якія стралялі 14



Вечар. Палац. Радзівілы 16

## Пункціram

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Беларусі Інесу Душкевіч з юбілеем. «Ваш жыццёвы шлях — прыклад самаадданага служэння мастацтву. На працягу многіх гадоў Вы з'яўляліся вядучай салісткай Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, стварылі на яго сцэне яркія, запамінальныя вобразы, якія прынеслі Вам вядомасць ва ўсім свеце», — падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт павіншаваў народнага мастака Беларусі Уладзіміра Тоўсціка з 65-годдзем. «Сваёй яркай і жыццесцвярджальнай творчасцю, прасякнутай шчырай любоўю да роднай зямлі, Вы робіце вялікі ўнёсак у развіццё беларускай культуры, садзейнічаеце яе папулярызацыі ў свеце, умацоўваючы дружбу і ўзаемаразуменне паміж народамі», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Кіраўнік дзяржавы адобрыў у якасці асновы для правядзення перагавораў праект праграмы супрацоўніцтва ў сферы адукацыі паміж урадамі Беларусі і Венгрыі на 2014 — 2016 гады. Правядзенне перагавораў па праекце праграмы і яе падпісанне даручана Міністэрству адукацыі.

✔ Парад і тэатралізаванае шэсце ў гонар Дня Незалежнасці 3 ліпеня пройдуць у Мінску бліжэй да канца дня. У раёне скрыжавання праспектаў Пераможцаў і Машэрава адбудзецца святочны канцэрт. Традыцыйна на працягу ўсяго дня розныя святочныя імпрэзы чакаюць гледачоў ва ўсіх раёнах сталіцы.

✔ Сёлета ў парадзе возьме ўдзел больш як 3,7 тысячы вайскоўцаў і каля 240 адзінак баявой тэхнікі ў складзе 20 пешых і 20 парадных разлікаў сучаснай ваеннай тэхнікі. Упершыню пройдзе калона партызан — у адпаведнай экіпіроўцы з рарытэтнымі ўзорамі стралковай зброі часоў Вялікай Айчыннай вайны.

✔ Тэматычныя выстаўкі, прысвечаныя 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, адкрыюцца ва ўсіх 154 дзяржаўных музеях Беларусі. Галоўнай падзеяй стане адкрыццё новага будынка Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны 2 ліпеня.

✔ Аўтапрабег спартсменаў-аўтааматараў у гонар 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў стартаваў 24 чэрвеня ад Паклоннай гары ў Маскве, а фінішуе 1 ліпеня ў Мінску ля Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Спартсмены праедуць па гарадах-героях і гарадах воінскай славы Расіі, па населеных пунктах Беларусі, якія ўказам Прэзідэнта нашай краіны ўзнагароджаны вымпелам «За мужнасць і стойкасць у гады Вялікай Айчыннай вайны».

✔ Свята «Купалле» («Александрыя збірае сяброў») будзе ладзіцца 5 — 6 ліпеня ў аграгарадку Александрыя Шклоўскага раёна пад дэвізам «Днепр — рака сяброўства». Сёлета канцэпцыя правядзення свята распрацавана з улікам актывізацыі развіцця ўзаемавыгаднага гандлёва-эканамічнага і сацыяльна-культурнага супрацоўніцтва прыдняпроўскіх рэгіёнаў Беларусі, Расіі і Украіны.



Фота Марыны Весялухі

*На сцэне фестывалю «Берагіня» — гурт «Талака» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.*

# Фальклор на ўзроўні душы

Гэты фестываль называюць «сапраўднай краінай, у якой хочацца калі не жыць, то хаця б заставацца як мага даўжэй», да яго рыхтуюцца, яго чакаюць — каб сустрэцца з сябрамі, прадставіць вынікі даследаванняў, але самае галоўнае — аж на чатыры дні акунуцца ў незвычайную атмасферу свята беларускага фальклору. Таму зусім не складана патлумачыць і слёзы радасці ў вачах удзельнікаў, і стомленыя, але прыязныя і шчырыя ўсмешкі гаспадароў, а таксама захапленне і здзіўленне на тварах замежных экспертаў.

Так, у г. п. Акцябрскі Гомельскай вобласці прайшоў VIII Рэспубліканскі фестываль фальклорнага мастацтва «Берагіня» — унікальны фэст, які не мае аналагаў у Беларусі і суседніх краінах. Арганізатарамі і ініцыятарамі выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гомельскага аблвыканкама, Акцябрскі райвыканкам, Беларускі фонд культуры. Адметна, што сёлета «Берагіня» адсвяткавала сваё 20-годдзе.

Цягам гэтых двух дзесяткаў гадоў фэст стаў адной з цэнтральных падзей культурнага жыцця Акцябршчыны, а таксама ўзгадаваў цэлае пакаленне людзей, якія глыбіню беларускай музыкі, песні, танца, этнаграфіі адчулі на ўзроўні душы і сэрца. Гэта не проста свята, а цэласны грунтоўны праект этнакультурнага выхавання дзяцей і моладзі, які ўключае некалькі этапаў і мае на мэце ахову, захаванне, папулярызацыю рэгіянальнай і лакальнай традыцыйнай спадчыны беларусаў. Адсюль і назва — «Берагіня» — жанчына, ці нават шырэй, — асоба, якая ахоўвае, аберагае нашу традыцыйную культуру, гадуе наступнае пакаленне шчырых прыхільнікаў творчасці беларускага народа.

Сёлета ў заключным этапе фестывалю ўзяло ўдзел 6 дзіцячых калектываў, якія выступілі ў розных праграмах, 7 аўтэнтычных гуртоў, 8 гасцявых калектываў, 61 танцавальная пара. У агульнай колькасці ўдзельнікамі фэсту стала больш як 500 чалавек з розных куткоў Міншчыны, Гомельшчыны, Магілёўшчыны, Брэстчыны і Віцебшчыны. Фэст фінансава падтрымалі толькі Акцябрскі райвыканкам і Гомельскі аблвыканкам. Таму не ўдалося запрасіць замежных гасцей, але гэтая акалічнасць ніякім чынам не паўплывала на настрой і атмасферу святкавання. Наадварот, фэст стаў больш камерным, а наша родная традыцыйная культура гаспадарыла на ўсіх сцэнах і пляцоўках.

У праграму заключных імпрэз «Берагіні» традыцыйна ўвайшлі Рэспубліканскі конкурс пар — выканаўцаў народных побытавых танцаў і Рэспубліканскі турнір дзіцячых фальклорных калектываў у розных намінацыях. Гасцей свята чакалі і некаторыя навінкі.

— Наш фестываль развіваецца, і сёлета побач з дзецьмі, якія адмыслова навучаюцца мастацтву народнай харэаграфіі, танцы сваёй мясцовасці прадставілі носьбіты — асобы, якія танцуюць з дзяцінства і маладосці, — распавёў аўтар ідэі, навуковы і мастацкі кіраўнік «Берагіні», этнахарэолаг Мікола Козенка.

Адметна, што ў гэтым годзе ўпершыню была заяўлена новая намінацыя для турніру дзіцячых фальклорных калектываў — «Народная проза», а фестываль атрымаў свае сімвалы — сцяг і штандар.

Заканчэнне чытайце на стар. 8

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Слова, патрэбнае грамадству

**Днямі ў Мемарыяльнай зале сталічнага Дома літаратара адбыўся пленум Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі з удзелам першага намесніка Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Радзькова.**

На пачатку сустрэчы з творцамі Аляксандр Міхайлавіч зачытаў віншавальныя слова Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі Саюзу пісьменнікаў Беларусі.

А. Радзькоў падзякаваў кіраўніцтву творчай арганізацыі за аператыўны і актыўны водгук на заўвагу Прэзідэнта пра тое, што сёння члены СПБ мала прысутнічаюць у інтэрнэце. Аляксандр Міхайлавіч падкрэсліў: пісьменнікі — гэта аўдыторыя, закліканая выказваць свае думкі публічна, а галоўнае сёння — праца з людзьмі. Ад творцаў чакаюць глыбокага асэнсавання гісторыка-палітычных падзей сучаснасці, імкнення як мага часцей праводзіць сустрэчы з чытачамі ў школах ды бібліятэках.

Генеральны дырэктар Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду Мікалай Коваль перадаў Аляксандру Радзькову некалькі нумароў часопіса «Белая Вежа», друкаванага органа Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, выпуск якога аднаўлены сёлета. М. Коваль прапанаваў унесці «Белую Вежу» ў спіс сацыяльна значных выданняў.

Старшыня грамадскай арганізацыі Мікалай Чаргінец, павіншаваўшы творцаў з 80-гадовым юбілеем СПБ, зазначыў, што да гэтай даты прымеркавана грашовае прэміраванне больш як 200 членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі: ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны (іх у арганізацыі 13), а таксама ветэранаў літаратурнай працы. Больш як 100 пісьменнікаў узнагароджана медалямі, граматамі і дыпломамі. У сваім дакладзе «80 гадоў Саюзу пісьменнікаў Беларусі: на шляхах творчых здзяйсненняў» М. Чаргінец распавёў гісторыю стварэння СПБ, а таксама згадаў падпісаныя сёлета дамовы аб супрацоўніцтве з пісьменніцкімі арганізацыямі Казахстана, Азербайджана, Кубы і Турцыі. Усяго ж такія пагадненні заключаны з 29 краінамі.

З дакладам пра пасяджэнне прыёмнай камісіі СПБ, на якім у творчую арганізацыю прымалі новых членаў з абмеркаваннем іх кніг, выступіў Уладзімір Навумовіч. Членам Праўлення было прапанавана звяртаць больш пільную ўвагу на адказнасць тых пісьменнікаў, якія даюць рэкамендацыі для ўступлення ў СПБ. Першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў і старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Міхась Пазнякоў прапанавалі перагледзець склад секцый арганізацыі і актывізаваць іх дзейнасць. Ад Віктара Праўдзіна паступіла ініцыятыва зрабіць праходжанне прыёмнай камісіі абавязковым для ўсіх кандыдатаў на ўступленне ў СПБ.

Ніна Чайка падкрэсліла: «Мы вярнулі народу слова пісьменніка. Саюз пісьменнікаў Беларусі сапраўды выконвае ролю, патрэбную грамадству».



Фота Кастуся Дробава

*Аляксандр Радзькоў перадае Мікалаю Чаргінцу віншавальнае слова Кіраўніка дзяржавы.*

Сакратар СПБ Георгій Марчук унёс прапанову аб стымуляванні пісьменніцкай працы кіраўніцтвам дзяржавы, аб увядзенні штогадовых прэмій Урада, Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі, Міністэрства адукацыі, а таксама аб вылучэнні пісьменнікаў у члены-карэспандэнты Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Ён распавёў і пра нядаўні конкурс творчых работ вучняў, праведзены Саюзам пісьменнікаў Беларусі сумесна з рэдакцыяй часопіса «Роднае слова», які быў прысвечаны 70-годдзю з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Падчас пленума медалямі «За вялікі ўклад у літаратуру» былі ўзнагароджаны пісьменнікі Анатоль Андрэеў, Анатоль Казлоў, Вадзім Спрынчан і Таісія Трафімава. Дыпломы ганаровых членаў СПБ атрымалі Аліна Легастаева і Валерый Грышкавец.

**Яна ЯВІЧ**

*Акцыі*

# Дні лета кніжнага

На Міншчыне актыўна пашыраецца прастора правядзення акцыі «Лета з добрай кнігай». Чарговая сустрэча адбылася ў мінулую пятніцу ў дзіцячым аздараўленчым летніку Пухавіцкай СШ у вёсцы Пухавічы Пухавіцкага раёна.

У госці да юных чытачоў завіталі паэты Рагнед Малахоўскі, Ганад Чарказян, Кацярына Хадасевіч-Лісавая. У Пухавіцкай СШ — свая літаратурная гісторыя. У пасляваенны час тут настаўнічаў Алесь Пальчэўскі. У школе ў розныя гады выкладалі Васіль Лапка, Леў Пілатовіч, Ала Ралькевіч, Іван Падбярэжскі, якія спрабавалі свае сілы ў літаратуры. А вучнямі былі Уладзімір Ляўданскі, Вольга Савасцюк, Алесь Карлюкевіч.

Пісьменнікі не толькі выступілі ды расказалі пра свае творчыя здабыткі, але і зрабілі юным чытачам, школьнай бібліятэцы сур'ёзны падарунак — перадалі паўсотні кніг з аўтографамі беларускіх паэтаў і празаікаў.

— Да правядзення акцыі «Лета з добрай кнігай» у Пухавічах спрычынілася Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, — падкрэсліла намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Алена Стэльмах. — Ёсць спадзяванне, што падобныя сустрэчы пройдуць і ў іншых раёнах Міншчыны.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

*Стасункі*

# Імператарскі палац. Пабачым?

**Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўны музей імператарскага палаца Гугун у Пекіне (Кітайская Народная Рэспубліка) падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве. Подпісы пад дакументам паставілі генеральны дырэктар НММ Уладзімір Пракапцоў і дырэктар Дзяржаўнага музея імператарскага палаца Гугун Шань Цзісян.**

Пагадненне дае права на далейшае цеснае супрацоўніцтва паміж установамі культуры дзвюх краін. Дакумент дае магчымасць абменьвацца выставачнымі праектамі, навуковымі даследаваннямі, праводзіць стажыроўкі супрацоўнікаў.

Намеснік міністра культуры Беларусі Васіль Чэрнік, які прысутнічаў на цырымоніі падпісання дагавора, падкрэсліў значнасць падзеі: «Гэта яшчэ адзін крок на шляху паглыблення культурнага ўзаемадзеяння паміж дзвюма краінамі. Беларусь і Кітай супрацоўнічаюць у кінематаграфіі, бібліятэчнай справе, цяпер — у музейнай сферы». Ён выказаў надзею на тое, што Дзяржаўны музей імператарскага палаца Гугун наладзіць партнёрскія адносіны з Нацыянальным гістарычным, а таксама з абласнымі музеямі.



Фота Кастуся Дробава

Дзяржаўны музей імператарскага палаца Гугун, заснаваны 10 кастрычніка 1925 года, — адна з самых галоўных славутасцей Пекіна. Гэты найбуйнейшы архітэктурна-мастацкі музей краіны размешчаны ў самым цэнтры сталіцы Кітая. Палацавы комплекс пабудаваны ў 1420 годзе пры дынастыі Мін. Плошча будынкаў імператарскага палаца Гугун складае 160 тысяч квадратных метраў. Тут налічваецца больш як дзевяць тысяч пакояў. Гэта самы вялікі і цэласна захаваны старажытнакітайскі архітэктурны комплекс у Кітаі і ў свеце. У 1987 годзе Гугун быў уключаны Камітэтам сусветнай спадчыны ЮНЕСКА ў Рэестр сусветнай спадчыны.

Падпісанне дакумента адбылося падчас візіту прадстаўнікоў КНР у Беларусь.

**Таццяна ШЫМУК**

# Гучала мова ў Курску

У расійскім горадзе Курску выйшла чарговая кніга серыі «Библиотека международного альманаха "Славянские колокола"». Зборнік «Порубежье» (рэдактары Уладзімір Гаўрыловіч і Алег Саранскіх) сабраў пад адной вокладкай творы паэтаў і празаікаў з беларускага Гомеля і расійскага Курска. Чытачам будзе цікава пазнаёміцца з сучаснымі тэндэнцыямі ў літаратуры дзвюх краін.

Што ж датычыць літаратараў Гомельшчыны, то з 28 аўтараў 14 паэтаў і празаікаў прадставілі свае творы на беларускай мове. Упэўнены, расійскі чытач зразумее мову братняга народа і атрымае задавальненне, прачытаўшы добрыя вершы і прозу гамяльчан.

**Міхась СЛІВА**

# Сустрэчы на мяжы

У сёмы раз Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі сумесна з Дзяржаўным камітэтам пагранічнай службы зладзіла культурна-асветніцкую літаратурную экспедыцыю на мяжу нашай краіны. Гэтым разам паездка літаратараў Міншчыны была прысвечана Дню ўсенароднай памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны.

Група, у якую ўвайшлі першы сакратар СПБ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Генадзь Пашкоў, намеснік старшыні абласнога аддзялення СПБ Анатоль Смалянка, пісьменнікі Павел Жукаў з Мядзельшчыны, Віктар Сабалеўскі з Уздзеншчыны, мінчанін Леанід Крыванос, пабывала на Гродзеншчыне ў падраздзяленнях пагранічнай службы, якія дыслацыраваліся там у 1941 годзе і 22 чэрвеня першымі ўсталі на шляху нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Пісьменнікі пазнаёміліся з побытам і ўмовамі службы абаронцаў мяжы, наведалі экспазіцыю музея пагранічнай заставы імя Героя Савецкага Саюза В. Усава. Творцы выступілі перад вайскоўцамі гэтай і 14-й пагранічных застаў, падарылі бібліятэкам падраздзяленняў больш чым сорак кніг беларускіх аўтараў.

22 чэрвеня а чацвёртай раніцы — у час, калі пачалася Вялікая Айчынная — дэлегацыя пісьменнікаў Міншчыны ўзяла ўдзел у памінальным мерапрыемстве ў Гродне, ля Мемарыяльнага комплексу воінам-пагранічнікам Беларускай пагранічнай акругі, якія загінулі ў першыя дні вайны. Манумент быў пабудаваны дзесяць гадоў таму на добраахвотныя ахвяраванні беларускіх пагранічнікаў і іх калег з іншых краін СНД. Даніну памяці героям, якія першымі прынялі на сябе фашысцкі напад, аддалі воіны Гродзенскай пагранічнай групы, іншых часцей гродзенскага гарнізона, прадстаўнікі гарадскіх улад. У мерапрыемстве таксама ўдзельнічалі аўтары мемарыяла — скульптар Генадзь Буралкін і архітэктар Станіслаў Федчанка.

**Леанід ІВАНОЎ**

# Пра подзвігі і драмы

У РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» пабачыла свет кніга журналісткі, якая доўгі час працавала ва ўрадавай і парламенцкай газеце «Звязда», Таццяны Падаляк — «Вайна — самы страшны грэх». Пад адной вокладкай сабраны артыкулы, гутаркі, нарысы, прысвечаныя падзеям і людзям Вялікай Айчыннай вайны. У падзагалоўку невыпадковым падаецца наступнае вымярэнне: «Маральна-публіцыстычны довед».

Вядомы беларускі гісторык Сяргей Жумар у прадмове да зборніка, якому папярэдніцала звычайная карпатлівая журналісцкая праца Т. Падаляк на працягу многіх гадоў, зазначае: «Гэта кніга пра Вайну і кніга пра людзей. Пра людзей Вайны, людзей на Вайне, людзей пасля Вайны. Пра дні мінулыя, пра «сёння» і «заўтра» нашай памяці аб гэтых днях. І аўтар, як заклапочаны лекар, углядаецца ў нас, слухае нашы словы, глядзіць у нашы твары. Ці праўда, што «никто не забыт, и ничто не забыто»? Ці праўда, што стукае яшчэ ў сэрцах попел Клааса?..» І далей: «Ідзе час, і ў новых пакаленняў ужо няма той вастрыні пачуццяў. Але ёсць Слова, якое можа распавесці пра жывую памяць і боль старых салдат і старых партызанаў, з якіх засталіся ў жывых ужо адзінкі; памяць і боль дзяцей вайны, былых жыхароў спаленых вёсак.

Слова аб людзях вядомых і невядомых. Слова-ўспамін і Слова-папярэджанне. Слова-споведзь і Слова-асветнік. Слова-дапаможнік і Слова-перасцярога. Гэта Слова мы бачым на старонках кнігі…»

Рэцэнзентамі выдання, якое настаўніку можна смела браць з сабою на ўрокі гісторыі, выступілі доктар гістарычных навук А. Каваленя, доктар гістарычных навук І. Сачанка.

Таццяна Падаляк як дасведчаны публіцыст, адной з галоўных тэм у творчасці якой з'яўляецца ваенная тэма, прадставіла на суд чытача лёсы сапраўдных герояў і сапраўдных ахвяр Вялікай Айчыннай. На старонках кнігі чытача чакаюць сустрэчы з Пятром Машэравым і Аляксандрам Кузьміным, Аленай Мазанік і Марыяй Осіпавай, Кірылам Мазуравым і Аляксандрам Аксёнавым, Міхаілам Кавалёвым і Вольгай Няхай… У кожнага з герояў — свая вайна. Але ўсе яны аднолькава мужна, самаахвярна, не шкадуючы жыцця змагаліся за свабоду свайго народа. З некаторымі героямі аўтар вядзе непасрэдную размову. Пра некага расказваюць блізкія персанажу людзі. Заўжды публіцыстка знаходзіць пераканаўчыя, цёплыя, шчырыя словы пра сваіх герояў.

Многія старонкі носяць завостраны публіцыстычны характар. Таццяна Падаляк прынцыпова, выкарыстоўваючы дакладныя крыніцы, піша пра фальсіфікатараў гісторыі Вялікай Айчыннай. Так, пра абездухоўленых кан'юнктуршчыкаў, іх жаданне запляміць гераічнае і драматычнае, трагедыйнае, лёсавызначальнае для беларускага народа, сёння нельга маўчаць. Так, следам за журналісткай скажам: «Вайна — самы страшны грэх…» Паўторым за творцай: «…не атрымаецца ператварыць нямецка-фашысцкіх злачынцаў у непадсудных.

Абвінавачваюць іх загінуўшыя, расстраляныя, спаленыя зажыва, закатаваныя…

Абвінавачваюць іх тыя, хто вынес на сваіх плячах увесь цяжар вайны і пасля Перамогі з руін і попелу адбудаваў краіну…» І яшчэ — нельга не пагадзіцца з перакананнем: «Вось чаму і сёння нацысты застаюцца падсуднымі — іх судзіць сама гісторыя».

Хочацца спадзявацца, што «звычайны фашызм» ніколі не стане непадсудным. Калі ў журналістаў, якія ўплываюць на свядомасць чытача, калі ў пісьменнікаў, якія нагадваюць пра герояў і здраднікаў, будзе трыбуна, будуць такія кнігі, якой уяўляецца «маральна-публіцыстычны довед» «Вайна — самы страшны грэх» кандыдата філалагічных навук Таццяны Падаляк, то, несумненна, фашызм «ніколі не стане непадсудным».

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Сюжэт для серыяла

Літаратурная сустрэча пад назвай «Жыццё — як сюжэт для серыяла» з пісьменнікам-франтавіком, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, ганаровым грамадзянінам горада Полацка Алесем Савіцкім адбылася ў Мінскай раённай цэнтральнай бібліятэцы ў межах семінара «Сацыяльнае партнёрства як элемент сацыяльнай палітыкі».

Алесь Савіцкі адзначыў сёлета 90-гадовы юбілей. У скарбонцы творцы больш як 30 кніг, пераважна — дакументальныя, пра вайну, пра жыццё. Першы свой верш пра сябра Мікалая Паўлава, які загінуў, напісаў творца для партызанскага баявога лістка.

Кнігі Алеся Ануфрыевіча вызначаюцца высокай мастацкасцю, выдатным веданнем жыцця, глыбокім пранікненнем у характары персанажаў. У іх ён заклікае не ваяваць, а будаваць мір на зямлі.

Надзвычай цікава было слухаць гэтага жыццярадаснага, зайздроснай энергіі чалавека, які па-ранейшаму жыве інтарэсамі Беларусі, бярэ актыўны ўдзел у літаратурным і грамадскім жыцці краіны. Падчас імпрэзы можна было пазнаёміцца з выстаўкай кніг Алеся Савіцкага «Толькі мужны дасягае мэты».

На сустрэчу пісьменнік прыехаў з першым сакратаром СПБ Генадзем Пашковым і навуковым супрацоўнікам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзіяй Шагойка. Напрыканцы вечарыны аўтары падарылі бібліятэцы свае кнігі і ўручылі граматы Саюза пісьменнікаў Беларусі за актыўны ўдзел у прапагандзе беларускай літаратуры дырэктару Мінскай раённай цэнтральнай бібліятэкі Аксане Пунінскай, галоўнаму бібліёграфу гэтай установы Наталлі Буйноўскай, загадчыкам філіялаў МРЦБ Марыне Даміно, Галіне Атрасевіч і Жанне Салаўёвай.

**Святлана КОЎЗЕЛЕВА**

# Шчаслівы ў вечнасці

Прэзентацыя кнігі дзённікаў вядомага беларускага пісьменніка Яна Скрыгана адбылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Выданне з'явілася дзякуючы дачцэ аўтара, Галіне Скрыган, і атрымала назву «Сэрцу горкая далячынь».

«Дзесяць сшыткаў бацькавых запісаў я знайшла выпадкова, пасля смерці матулі. Яны былі акуратна складзены ў куточку і шчыльна перавязаны. Калі мае вочы прабеглі па старонках рукапісаў, адразу ж зразумела: трэба іх абавязкова расшыфраваць, сістэматызаваць, прывесці ў чытэльны выгляд і надрукаваць, каб пакінуць гэты бясцэнны летапіс часу нашчадкам», — паведаміла Галіна Скрыган. Ёю, як, дарэчы, і ўнукамі пісьменніка, сапраўды была праведзена цэлая навуковая праца, але гэта не адзіны крок да вяртання спадчыны Яна Скрыгана. На малой радзіме, у вёсцы Труханавічы, пачата рэстаўрацыя хаты, дзе ён нарадзіўся.

У 2015-м споўніцца 110 гадоў з дня нараджэння выдатнага мастака слова, які ўмеў ператвараць штодзённае ў незвычайнае, пісаў шчыра і пранікнёна, вельмі шанаваў родную мову і валодаў ёю дасканала.

Ян Скрыган пісаў дзённікі на працягу 18 гадоў (з 1974 па 1992 год), да апошніх дзён жыцця, бясконца вяртаючыся ў сваіх успамінах да мінулага і шукаючы адказ на пытанне: чаму ж я застаўся жывы?

У 1936 годзе пісьменніка арыштавалі, пазбавілі волі на дзесяць гадоў, назаўсёды разлучылі з сям'ёй, выслалі ў Сібір, а потым на доўгі час забаранілі жыць у Беларусі. Нягледзячы на страшэнныя выпрабаванні, Ян Скрыган пісаў: «Не магу, каб памяталіся крыўды. Толькі добрае павінна ўспамінацца людзьмі».

«Мой бацька ніколі не губляў пачуцця радасці ад жыцця, умення любавацца прыгажосцю наваколля. Ён казаў, што ў любым горы таксама ёсць месца для любові. Менавіта надзея на лепшае не дала яму і яго сябрам, прадстаўнікам беларускай інтэлігенцыі, загінуць падчас бясконцых рэпрэсій», — адзначыла Галіна Скрыган.

«Сэрцу горкая далячынь» — гэта фраза-пасланне, якая праходзіць праз усе старонкі выдання, пранікаючы ў сумленне кожнага, хто адчыніць кнігу. Яна Скрыгана ўвесь час нешта непакоіла, ён горача і пакутліва перажываў за лёс роднай мовы, апантана імкнуўся да новага ў творчасці: «Не магу зразумець, адкуль на сэрцы ў мяне так многа трывогі. Нейкае як бы жаданне, нейкае чаканне, няўпэўненасць. Як бы нешта павінна здарыцца — нядобрае, цяжкае».

З асаблівай цеплынёй ён узгадвае ў дзённіках сяброў свайго юнацтва, разам з якімі калісьці марыў пра светлую будучыню: Платона Галавача, Уладзіміра Хадыку, Барыса Мікуліча, Васіля Каваля і іншых.

«Каханне — гэта заўсёды жаданы боль. Разлука — гэта заўсёды далёкая памяць. Памяць ніколі не пытаецца ў чалавека — ці рады ёй. Без бацькаўшчыны чалавеку жыць нельга, калі папраўдзе ён чалавек», — казаў Ян Скрыган. Дзённікі адкрываюць новыя грані душы пісьменніка. Ян Скрыган разважае не толькі пра сваю літаратурную дзейнасць, — дае магчымасць адчуць сапраўдны колер і густ эпохі, у якую жыў, узгадваючы асабістыя сітуацыі, радасныя моманты ці трагічныя перыпетыі лёсу.

Думаецца, дзённікі Яна Скрыгана вартыя быць перакладзенымі на іншыя мовы свету.

**Марыя ВОЙЦІК**

## *Фоташтрых*




*У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка аднаго твора — «Лятучка» Юрыя Іванова. Фота было зроблена ў 1987 годзе на вытворчым камбінаце «Ткані». Здымак атрымаў прэмію World Press Photo і быў прызнаны «Лепшай фатаграфіяй свету за 10 гадоў (1980 — 1990)».*

# Ганарацца земляком

Паэтычны дыліжанс, прымеркаваны да 75-годдзя паэта-земляка, перакладчыка, лаўрэата дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы і Нацыянальнай прэміі Італіі Уладзіміра Скарынкіна, па запрашэнні супрацоўнікаў Гарадоцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі завітаў у арганізацыі і навучальныя ўстановы райцэнтра.

У межах праекта ў СШ № 1 адбыліся літаратурна-музычны вечар «Я беларускаму малюся слову» і электронная прэзентацыя, прысвечаная жыццю і творчасці У. Скарынкіна, «Паэт роднага краю». Наступныя прыпынкі — СШ № 2 і Гарадоцкі аграрна-тэхнічны каледж.

Сёння У. Скарынкін — аўтар 12 кніг паэзіі. На яго вершы гучаць песні Уладзіміра Мулявіна, Дзмітрыя Смольскага і інш. Гарадоцкім кампазітарам Вячаславам Мурашкевічам на музыку пакладзены яго верш «Вальс на пятачку» і «Вяселле едзе». Гарадчане ганарацца тым, што У. Скарынкін з'яўляецца першым перакладчыкам на беларускую мову «Боскай камедыі» Дантэ.

Да юбілею паэта цэнтральная бібліятэка ажыццявіла праект «Вершы ў кішэні». Жыхарам горада і раёна супрацоўнікі кніжніцы ўручаюць карткі з вершамі У. Скарынкіна. Маршрут праекта «Вершы ў кішэні» пройдзе праз навучальныя ўстановы, арганізацыі і прадпрыемствы горада, аддаленыя населеныя пункты раёна.

**Вольга ІВАНОВА**

# Як добрая прыкмета




Чэрвеньскі нумар часопіса запрашае ў сапраўдную летнюю атмасферу, прынамсі, думкі пра сонца і мора ўзнікаюць адразу, калі глядзіш на яго вокладку. Лета ў многіх асацыіруецца з сезонам адпачынкаў, таму аўтары «Вожыка» не маглі абмінуць гэтую тэму. Так, з «Дыялогаў» Віктара Лоўгача вы даведаецеся, чаму курорт для некаторых мужчын пераважаецца ў сапраўдную пакуту, а карыкатура Вікенція Пузанкевіча раскажа, якая пуцёўка для цешчы самая лепшая. Аднак, паехаўшы ў экзатычныя краіны, можна ў чымсьці і расчаравацца, напрыклад, як герой верша Вацлава Хадасевіча «Няма праўды ў нагах» (рубрыка «Вясёлая пошта»). Таму, магчыма, варта прыслухацца да звонкага голасу Людмілы Юшынай, які ў рубрыцы «Вожык на сцэне» спявае так: *«Што нам Сочы ды Канары, / Адлеры ды Нальчыкі? / Мы з табой такая пара, / Што абліжаш пальчыкі!»*

А які ж адпачынак без рамантычных прыгод? Вось і ў героя гісторыйкі Алеся Вілейскага «Любоўная афера» патрапіла Амурава страла. Праўда, жонка пра тое нічога не ведала і спакойна адпусціла мужа ў «камандзіроўку». І ўсё было б шыта-крыта, ды падвялі Васю… ногі. А якім чынам, даведаецеся пасля прачытання.

Аматарам пародый часопіс падрыхтаваў цэлую падборку вершаў гэтага жанру. Міхась Пазнякоў раскажа, як Аляксандр Быкаў неспадзявана для сябе самога замахнуўся на ролю сучаснага месіі; разам з Генадзем Аўласенкам вы ўпэўніцеся, што для Таццяны Будовіч якасць вершаў — пытанне не толькі мастацкага, але і гастранамічнага зместу; ад Анатоля Зэкава даведаецеся, чаму Віктар Гардзей не спяшаецца піць да дна. Такія-сякія задачы адкрыюць і міні-пароды Міхаіла Уласенкі: напрыклад, які след пакідае пасля сябе паэт і чаму кажух — не лепшая вопратка для спакушальніка дзявочых сэрцаў. У паэтычна-гумарыстычным марафоне ўдзельнічаюць і іншыя аўтары: Казімір Камейша са сваімі «Партрэцікамі», Уладзімір Ермалаеў з «Прасунутым унукам» і Міхась Мірановіч, які ўмее пісаць коратка і дасціпна: *«Сябры! / Паслухайце мяне: / Шукаў я ісціну / У віне. / Знайшоў! / А ісціна такая: / Што я не там / Яе шукаю!»*

Не забываецца «Вожык» і пра сваіх самых маленькіх чытачоў. «Калючык» запрашае дзетак разабрацца ў асаблівасцях балгарскай мовы, пакаламбурыць, знайсці адказы на загадкі. А мастакі Аляксандр Каршакевіч, Вікенцій Пузанкевіч, Аляксандр Пятроў прапануюць ажно тры вясёлыя міні-коміксы.

Кажуць, ёсць такая прыкмета: прачытаў «Вожык» — забяспечыў сабе выдатны настрой. А каб яна збывалася і для вас, не забудзьце завітаць на пошту і аформіць падпіску!

**Вераніка МАНДЗІК**

# Лунаюць галубы над абеліскамі…

Семдзесят гадоў таму, якраз у гэтыя чэрвеньскія дні, пачалася паспяховая аперацыя па вызваленні савецкай зямлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Галоўны ўдар Чырвоная Армія нанесла ў Беларусі. Для ворага ён быў поўнай нечаканасцю. У ходзе беларускай аперацыі пад кодавай назвай «Баграціён» разгромлена група армій «Цэнтр», вызвалена ўся тэрыторыя БССР, савецкія войскі выйшлі на пагранічныя межы і пачалі вызваленчы паход у парабаваных краінах Еўропы. Сталіца Беларусі — горад Мінск — магутным ударам чатырох франтоў была вызвалена 3 ліпеня 1944 года. Невыпадкова гэты радасны дзень стаў самай яркай і памятнай датай у найноўшай гісторыі рэспублікі. Адзначыць 70-годдзе з дня вызвалення Беларусі рыхтуецца ўся краіна. Беларуская зямля шчодра паліта слязамі і салдацкай крывёй. Няма ў нас такой вёскі і горада, якія не прынеслі б горкую ахвяру вайне. Над помнікамі і абеліскамі сёння лунаюць галубы, і новае пакаленне людзей не забывае ратны подзвіг народа. Гэтая старонка паэзіі, што выходзіць напярэдадні юбілею, складзена з вершаў як прафесійных, так і самадзейных паэтаў, і адна ў іх асаблівасць: нашы чытачы выказваюць удзячнасць ветэранам вайны, мастацкім словам славяць гераізм і мужнасць беларускага народа.

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

## Лічба 70

*Лічба 70 — як не згадаць:*
*Ранак чэрвеньскі,*
*бомбаў разрывы.*
*Гарады, хаты ў сёлах гараць,*
*У агні гінуць хлебныя нівы.*

*Абарвалі дзіцячыя сны,*
*І жаўрук змоўк у высі нябеснай.*
*Над зямлёю навіс цень вайны,*
*Цень, як чорная хмара, злавесны.*

*Лічба 70 — грэшна не знаць:*
*Сталі нашы пад Брэстам сцяною.*
*…Горка, крыўдна было адступаць,*
*Абліваліся сэрцы крывёю.*

*Ды кляліся вярнуцца назад —*
*Так душа дыктавала салдату.*
*За пакуты, за здзекі, боль страт*
*Непазбежнаю будзе адплата.*

*Лічба 70 — нельга не знаць:*
*З духам, з сілай народ стаў збірацца.*
*Хто свабоду ў яго мог адняць,*
*Гартаванага ў бітвах і ў працы.*

*Столькі ратных было ў яго спраў!*
*Меч падняўшы на хцівых чужынцаў,*
*Біў і ў грыву, і ў хвост іх — і гнаў*
*З гарадоў нашых, вёсак, гасцінцаў.*

*Лічба 70 — як жа не знаць:*
*Слёзы радасці —*
*час вызвалення.*
*Пераможныя гімны гучаць,*
*І настрой небывалы, вясенні.*

*І жыццё расквітнее ізноў,*
*Васількі засінеюцца ў жыце...*
*Па Еўропе з баямі ішоў*
*Наш цярплівы*
*салдат-вызваліцель.*

*Лічба 70 —*
*трэба ўсім знаць:*
*На паверцы стаяць ветэраны.*
*Год за годам радзее іх раць —*
*Робяць справу сваю час і раны.*

*Вызваліцелі нашы ў страі:*
*Не прывыклі сядзець склаўшы рукі.*
*Зноў спяваюць для іх салаўі*
*І пашану нясуць ім унукі.*

**Пастаўскі раён, в. Камаі**

**Аляксандр ШЛЕЯНКОЎ**

## Наш любы горад

*Бой адгрымеў. Не чутны стрэлы.*
*На вуліцах не льецца кроў.*
*І вось нарэшце вызваленне*
*Прыйшло к табе, наш Магілёў!*

*Быў у варожай ты няволі*
*І выйшаў з бітвы ўвесь сівы,*
*Ды толькі не схіляў ніколі*
*Перад чужынцам галавы.*

*Мы будзем памятаць заўсёды*
*Той чэрвеньскі шчаслівы дзень,*
*Калі прапаў над Магілёвам*
*Ад свастыкі фашысцкай цень.*

*Бягуць гады, дзесяцігоддзі...*
*Так, вельмі хутка час ідзе.*
*Наш любы горад! З вызваленнем*
*Віншуем сёння мы цябе!*

*Хай будзе мірным над табою*
*Заўсёды неба ў вышыні*
*І больш не парушаюць стрэлы*
*Перадсвітальнай цішыні.*

**г. Магілёў**



*Фота Кастуся Дробава*

**Людміла КРУГЛІК**

## Яр у полі

*Чаруе зноў*
*зямлю вясна,*
*Жаўрук пяе на волі.*
*Калісьці тут была вайна,*
*З таго і яр у полі.*

*Парос даўно*
*густой травой,*
*Квітнеюць незабудкі.*
*Адбыўся некалі тут бой…*
*Цяжкі, крывавы, хуткі.*

*Загляне сонейка з нябёс*
*Яскравым пералівам.*
*І хмарка,*
*не стрымаўшы слёз,*
*Асыпле іх на ніву.*

*Зноў памяць сэрца закране*
*Пакутным успамінам,*
*Пра тых,*
*хто згінуў на вайне:*
*Па брату, бацьку, сыну.*

*Мне цяжка нават уявіць*
*Боль пасівелай маці.*
*Ці можа сэрцу перажыць —*
*На век сыночка страціць.*

*Вачыма поўнымі журбы*
*Нябёсы запытае:*
*Чаму няма?.. І галубы*
*Закружаць ранкам мая.*

*Красуе новая вясна.*
*А яр — на тым жа месцы.*
*Паўсюль спакой і цішыня…*
*Ды толькі боль у сэрцы.*

**г. Дзяржынск**

**Серафіма БЕСТАВА**

## Татачку

*Не ведала пыхлівай я гардыні.*
*Была і буду я ніжэй травы.*
*Зноў погляд мой не адпускае здымак —*
*Адзіны здымак таты франтавы.*
*Вайна і стома зоры пагасіла,*
*Туга і смутак*
*у вачах байца.*
*Паўгода табе,тата,не хапіла*
*Да пераможнага дайсці канца.*
*Цябе і сёння,*
*родны, ўспамінаем,*
*Ніколі гэтай страты не забыць.*
*І гэта памяць вечная, святая*
*Пыхліва-гордай*
*не дазволіць быць.*

**г. Орша**

**Мікола ШАБОВІЧ**

## Апошні маналог ветэрана

фрагмент з «Паэмы памяці»

*Жыццё — як песня,*
*Песня — як жыццё,*
*Мы век жывём і цэлы век спяваем.*
*Пасля прыходзіць самазабыццё,*
*Калі за часам мы не паспяваем.*

*Жыццё — як песня,*
*Песня — як жыццё.*
*А раптам песня наша адспявана?*
*Нашто тады ўначы сэрцабіццё*
*І пенсія нашто для ветэрана,*

*Калі на целе вышыты узор*
*Нажом хірурга ў энным медсанбаце*
*Ўсё будзіць сон скрываўленым лязом*
*І медсястрой у беленькім халаце?*

*«Ты мусіў жыць, —*
*мне скажуць, — мог бы жыць,*
*Спяваць бы мог...» —*
*ды я, канечне, мог бы.*
*Балюча мне, што сэрца не дрыжыць,*
*А што рабіць, калі інакш — не можна.*

*Калі аднойчы раны закрычаць*
*Такім далёкім і нясцерпным болем,*
*Захочацца, каб нехта з-за пляча*
*Адным ударам песню абяздоліў.*

*Я мог бы жыць, ды што я мог зрабіць,*
*Калі гады вяла мяне дарога*
*На гэта поле, дзе мой боль ляжыць —*
*Мае сябры ляжаць з сорак другога.*

*Кідаў сяўню і бег тады я прэч,*
*Прэч ад палёў — у хату, а засевак*
*Мой дасяваў прыгорблены сусед*
*Пад позіркі цікаўныя суседак.*

*Так кожны год. А што я мог рабіць,*
*Калі прашыта памяць рыкашэтам,*
*Калі не знаеш: быць альбо не быць*
*На гэтым белым і трывожным свеце...*

*Бывайце. І сумуйце, і спявайце,*
*Але ніколі вы не забывайце*
*Поле, поле бою...*
*І праз замеці*
*Помніце пра поле,*
*Поле памяці.*

**г. Мінск**

**Аляксандр КЛАЧКОЎ**

## Спаленая вёска

*Тут некалі бегалі дзеці —*
*быллё парасло.*
*Бязлюддзе на гэтай планеце…*
*Куды ўсё сышло?*

*Кружыўся над хатамі бусел —*
*вароны крычаць.*
*Бярозкі схіліліся ў скрусе,*
*знямела маўчаць.*

*Растаяла вёска, бы крыга,*
*калісьці ж была*
*ад полымя тая адліга —*
*не стала сяла.*

**г. Мінск**

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## Балючы ўспамін...

Памяці партызанкі Люсі Чалоўскай, помнік якой устаноўлены на праспекце Рэвалюцыі ў г. Барысаве

*Я з Люсяй размінулася Чалоўскай —*
*З'явілася пазней на гэты свет.*
*Не давялося быць яе сяброўкай,*
*Гляджу з журбою на яе партрэт.*

*Дзяўчына — прыгажуня, нібы кветка —*
*І твар, і постаць, ды з касой тугой.*
*У час вайны загінула падлеткам —*
*Барысаў-горад жаліцца па ёй.*

*Ішла ў разведку, кінулі за краты.*
*І катавалі — здзекі як сцярпець.*
*А вораг шчэрыўся: «Наладзім табе свята —*
*Не будзеш ні смяяцца больш, ні пець!»*

*Сваё раскручваў лістапад педалі,*
*І слёзы-кроплі падалі з нябёс.*
*У ноч на сёмае дзяўчыну расстралялі —*
*Так рана абарваўся ейны лёс.*

*Ды застанецца прыкладам навечна*
*Нашчадкам той балючы напамін.*
*Над помнікам крылатай зоркай вечар*
*Вянок сплятае з пацерак-хвілін...*

**г. Барысаў**



Васіль МАКАРЭВІЧ

# У лясной глушы

*Эсэ*

Далёка і недалёка, недзе там, у мядзведжым кутку і непалазах, дзе нарадзіўся я і вырас, лес, высокі, стройны і выносісты, часамі стоена зацята, бы ў глыбокім одуме, маўчаў, часамі безупынку гаманіў з высокім небам і быў для мяне бацькам і настаўнікам, заступнікам і дарадцам, карміцельцам і паільцам ды атачаў нашу вёску з усіх чатырох старон. З усходу лясны гушчар сплываў з гарыстага схілу і падступаўся да неглыбокай і нешырокай рачулкі Мясрэды настолькі блізка, нібы мерыўся перайсці яе ўброд.

З паўднёвага і заходняга боку вёскі лес хвойна-змешанай пароды стаяў на ладнай, амаль кіламетровай, адлегласці ад яе. Прашчуры тутэйшых жыхароў, пэўна, з гадамі адваявалі ў навакольных лясоў глеістую ўрадлівую зямлю, выкарчавалі тоўстыя, як дзежкі, пні, засыпалі ямы, ачысцілі ад хламу і ламачча, узаралі дый узвярнулі аблогу. Цяпер кожную вясну вясковыя шчыруны садзілі пад плуг бульбу, сеялі збажыну: жыта, ячмень і авёс, а ў канцы лета і пачатку восені вазілі адтуль нагружаныя, як не пад самае неба, мажары снапоў з чатырохгранным калоссем, у якіх шчыльна адзін каля аднаго сядзелі буйныя і цвёрдыя зярняты. Тралявалі мяхі з бульбай, белае і хрумсткае, як марозны калядны снег, качанне капусты, снапкі лёну ды іншае багацце.

З паўднёвага боку, дзе дарога бегла ў мястэчка і з мястэчка, густы, як бёрда, хвойнік амаль ушчыльную падступаў да канцавых хат і кашлатым галлём сасонак ды калючам, з атласным адлівам, лапнікам ялін намагаўся зазірнуць у іх вокны. А можа, яны дзівіліся з пяцісценак, што былі зрублены са стагадовых сосен, якія раслі за ракой, ва ўрочышчы, што называлі Дубровай.

Сосны там выносіліся ў неба дужыя і роўныя, як струны, якія самі прасіліся ў зруб хаты. Наважыўшыся аддзяліцца ад бацькоў, каб мець уласнае кубло ды гаспадарку і жыць асобнай сям'ёй, дзецюкі валілі на Дубровах дрэвы, а тыя, вершалінамі да вёскі, здаецца, самі падалі ў зруб і ўсё роўна як прыкіпалі да смалістых бёрнаў, якія ляжалі ў сценах настолькі шчыльна, што між імі не магла ўбіць дзюбы нават такая прамыслая птушка, як дзяцел. У вёсцы жылі цесляры з залатымі рукамі, да якіх ішлі з-за свету з просьбай адмасточаць хату. І яны рады былі паказаць сваё ўменне і майстэрства. Дык гэта для чужых, як кажуць, людзей. А для сваіх аднавяскоўцаў яны рабілі цуды. Узвядуць зруб, стукнуць абушком па сцяне, — ён гудзе, як царкоўны звон! Прыгрэе, прыпячэ ўлетку сонца, — сярбрыстыя бёрны пачнуць слязіцца крышталёвымі кроплямі жывіцы. Празрыстыя кропелькі, нібы пацеркі, абсыплюць сцены хаты, і яны робяцца падобнымі да казачнага церама. Вяскоўцы, вяртаючыся апоўдні з ягад ці грыбоў, зірнуць з зарэчнай гары на вёску, дзіву даюцца, не вераць уласным вачам: здаецца, воддаль стаіць не вёска, а нейкае чарадзейнае селішча, абчэпленае і абсыпанае бліскучымі камянямі.

А да лесу прывыкалі з дзяцінства. Гэтак, як калісьці старэйшыя, і я са сваімі сябрамі і галаштаннай камандай, у якой верхаводзіў Ігнась Дубок, улучыўшы зручную хвіліну, калі нашы маці ішлі ў поле акучваць бульбу або на пожню падварушыць пракосы, выхапіўшыся з хат, нырялі ў густы сасоннік, тачыліся і лезлі ўглыб лясного гушчарніку, дападалі да верасоў і ягадніку, гулялі ў партызан, лазілі па дрэвах, каб пабачыць з іх навакольныя абсягі, зірнуць з вышыні на вёску. Ніхто з нас не мог узлезці на дрэва вышэй за Дубка. Не таму, што баяліся вышыні. Дубок умеў уздзерціся на самую хісткую і гнуткую макаўку, якая во-во, здавалася, храпне, зломіцца, і ён грукнецца на дол. Але вершаліна гойдалася ўбакі, а Ігнась крычаў, хваліўся перад намі, карапузамі, што як на далоні бачыць мястэчка з крамай, дзе прадаваліся цукеркі і пернікі, якімі трызніла вясковая дзятва.

Але галоўным, што цягнула тады нас у навакольныя лясы, былі вінтоўкі, карабіны і боепрыпасы: патроны рознага калібру, міны. Адкуль яны ўзяліся каля нашай вёскі? Непадалёк, дзе высіўся і моўк звераваты лясны гушчар, ішла, цягнулася дарога, якую спрадвеку звалі шляхам. Дзіўна, што шлях заціхаў і зарастаў лазой і рознай непатрэбшчынай у мірныя дні і ажываў у вайну. Справа ў тым, што ён збягае з шашы-магілёўкі ў Беразіно, нырае ў лясны гушчар і, згубіўшыся ў ім, шчэміцца праз непралазь добрую сотню вёрст. І вылазіць на магілёўку ў Бялынічах. Шлях быў вельмі зручны для кожнай арміі, якая адступала. Збочыўшы на яго, яна імгненна знікала, як скрозь зямлю правальвалася. Пакуль армію шукаў і знаходзіў праціўнік, яна вунь як далёка была ад яго! Хіба дзіва, што па шляху ў сорак першым адступала наша славутая сотая армія, а ў сорак чацвёртым беглі немцы, вырываючыся з акружэння і пакідаючы горы зброі. Сапхнутыя на абочыну, стаялі падбітыя і абгарэлыя танкі, бронетранспарцёры, дальнабойныя гарматы, штабныя аўтобусы і легкавушкі. Пад кожнай сасной можна было знайсці вінтоўку ці аўтамат, скрынку з патронамі, міну альбо снарад, якія можна было падрываць у лесе. Але там ніхто не бачыць. А ў вёсцы — іншая справа! Там вунь колькі сведак! А нам ого як важна было пахваліцца сваім геройствам! Дзе-небудзь на гародзе мы раскладвалі вогнішча, кідалі ў яго патроны і міны, а самі, колькі мелі сілы, ляцелі як падалей і хаваліся за ўзмежкам ці вялізным валуном. Трашчалі патроны, бухалі міны, кулі і асколкі свісталі і сыпаліся ў нас над галовамі. Гэта была забава і гульня са смерцю. Мы ведалі, што ўсе ад старога да малога сядзелі ў хатах, баючыся выглянуць у акно, каб не падставіцца пад кулю ці асколак. А мы, падшыванцы, адчувалі сябе на сёмым небе, бо мелі справу са зброяй і не баяліся яе. А калі канчаліся «боезапасы» і прыходзілі маці з рамяннямі ці канцом вяроўчыны, каб адшлёгаць ніжэй пояса і ўкласці ў галаву глузды, мы разбягаліся хто куды.

Зімой, калі снягі засыпалі ваенныя трафеі, мы ўсё роўна знаходзілі занятак у лесе. Разам з дрывасекамі, што нарыхтоўвалі рудстойку для Данбаса, ехалі ў дзялянку, памагалі падразаць сосны, церабіць галлё і вазіць бёрны на рум, высокі бераг ракі, дзе складвалі іх у роўныя штабялі. А вясной спяшалі на гэты самы рум, каціплі рудстойку ў раку. Там, дзе штабялі стаялі на ўскрайку берага, варта было вырваць з зямлі калкі з падпорамі, як круглячкі самі сыпаліся ў ваду. Чым далей стаялі штабялі ад ракі, тым цяжэй даводзілася нам. Рудстойку трэба было ўжо насіць на руках. Калі траплялася камель, мы хапаліся за яго ўтрох-учатырох і ледзь ступалі па адталай зямлі, тонучы ў ёй па забарскі. А з бёрнамі, так званымі траякамі, даводзілася паднапяцца. Некаторыя пасля гэтага хапаліся за жывот. Цяжар быў не па ўзросце. Што да паводкі, яна ўмомант падхоплівала рудстойку ды бёрны і лёгка несла да Беразіны. Там іх грузілі на баржы ды параходы і везлі па Дняпры, пакуль яны не траплялі ў Данбас. А нашы маці тоўпіліся каля касы сплаўной: за нашу працу не толькі плацілі грошы, але давалі яшчэ спецыяльныя пайкі з харчам, што прыходзілі з Амерыкі, у якіх быў ячны жаўток і іншыя прысмакі, ад якіх ніхто не адцягнуў бы і за вушы. Маці ганарыліся намі, шалапутамі, маўляў, растуць памочнікі. І мы, здавалася, станавіліся вышэй ростам, адчувалі, што не зломкі, можам не толькі рудстойку ў раку каціць з берага, але зносіць і сцягваць у дзялянцы карчы пасля таго, як іх ірвалі аманалам падрыўнікі, раўняць дол баронамі і садзіць прывезеныя з гадавальніка дрэўцы.

А сярод лета, прахапіўшыся на досвітку, жанчыны будзілі нас, падлеткаў, і з набіркамі, лубкамі і вёдрамі ўгрунь беглі ў ягады каму куды бліжэй: адны ў канец вёскі, дарогай, што вяла ў мястэчка, іншыя за раку, дзе высыпала столькі чарніц і маліны — хоць завалiся! Белыя хусціны, пярэстыя картузы мільгалі сярод тоўстых камлістых хвой, збіральнікі стараліся адзін перад адным, граблі і гарнулі чарніцы і маліны ў набіркі і лубкі і, набраўшы з каптуром, высыпалі ў вёдры. Пальцы рабіліся сіне-фіялетавымі, вусны — таксама. Хіба хто мог утрымацца, каб раз-пораз не кінуць спелую ды буйную ягадзіну ў рот, адчуць асалоду і смак?.. Пачынала ныць спіна, але ніхто, калі і спрабаваў прысесці на пянёк, не дазваляў сабе раскапусціцца на ім дый прыснуць. Разагнецца каторая ягадніца, пастаіць хвіліну і зноў грабе, горне ягады ў сваю пасудзіну. І — так да полудня. Глянуўшы на сонца, жанчыны з памочніцамі і памочнікамі хапалі вёдры з ягадамі і спяшалі ў вёску: трэба было запаліць у печы, прыгатаваць для парсюкоў мешанку, зладзіць снеданне і сабе.

Пасля цёплых дажджоў і ліўняў праз мох і іглiцу пачыналі тачыцца і лезці грыбы: баравікі і махавікі, грузды і сыраежкі, — усе і пералічыць цяжка. І зноў, устаўшы на досвітку, сяло спяшала ў хвайнякі, праз якія ішоў шлях.

Праўда, падбітых танкаў, бронемашын ды іншай тэхнікі не было ўжо і ў паміне. Аднойчы, прыехаўшы на машынах і з пад'ёмнымі кранамі, рабочыя пачыкрыжылі іх аўтагенам, пагрузілі на самазвалы і адвезлі на пераплаў. За паўмесяца ад лому і друзу не засталося і следу. Затое грыбоў было поўна па два бакі шляху, а свінухі вылазілі і на шлях. Праз гадзіну ці дзве жанчыны і падлеткі неслі дамоў кашы і вёдры з грыбамі. Баравікі і махавікі сушылі, каб паласавацца імі зімой. Астатнія здавалі на грыбаварню, што дыміла каля рэчкі ад рання да ночы. Каля катлоў увіхаўся грыбавар Антон Шышла. Тут жа круціўся і Ігнась Дубок. Ён быў у Антона памочнікам: насіў ад ракі ваду, памешваў у катлах грыбы, падкладваў у касцёр дровы. Час ад часу кідаў позірк на азяроды: відно, хацеў залезці на самы верх і, на зайздрасць аднагодкам, прайсціся па тонкай жардзіне. Але Шышла не спускаў з яго вока, патрабаваў, каб ён рабіў тое, што і павінен рабіць памочнік. А клопату хапала. Зварыўшы грыбы і дадаўшы розных прыпраў, Шышла з Дубком кулялі іх з катла ў бочкі, устаўлялі днішча і наганялі абручы настолькі туга, што між клёпак не магла капнуць і кропля грыбнога адвару.

Пасля летніх турбот і вэрхалу восеньская цішыня павісае ў наваколлі, сярод жардзін азярода плыве павучына бабінага лета. А на рашатні стаіць Дубок. Яшчэ з раніцы ён хацеў выправіцца на шлях. Там ён надоечы адшукаў міну. Яму трэба павазіцца з гэтай штуковінай. Але не пускае маці: прыгразіла папружкай. Ігнась не сказаць каб баяўся матчынай пагрозы. Ён па-свойму пратэстуе: выскачыў з хаты, а там гародамі да азярода, ускараскаўся наверх і ходзіць, як цыркач, па жардзіне, становіцца на рашацень, рызыкуючы ўпасці і разбіцца. Ва ўсіх, хто глядзіць на ягонае блазенства, замірае сэрца, перахоплівае дыханне. Маці ні жывая ні мёртвая стаіць зводдалі з вачамі, поўнымі жаху і слёз. Моўчкі яна просіць і моліць Бога, каб ён ўратаваў яе верхалаза, клянецца, што болей ніколі не возьме ў рукі папружку.

А тым часам з Гібалавіч цераз поле ў мястэчка ішоў сівенькі і лёгкі, як пёрка, дзядок. Поле было вышэй за вёску, і пабачыў ён азярод, на ім падлетка, а ўнізе гурт людзей. Падышоў і спытаўся: «Што гэта ён робіць?» — «Хіба не бачыш, па азяродзе ходзіць», — адказаў нехта з гурту. «А хто яго ўзагнаў туды?» — дапытваўся дзядок. «Як хто? — здзівіўся той самы голас. — Дурнота! Захацеў ісці на шлях, дзе бонба валяецца. А маці не пускае. Баіцца, што падарвецца. Во і мітрэнга». — «Таго, што Богам наканавана, ніхто не міне», — быццам сказаў дзядок і перахрысціў Дубка. Ніхто не ведае, ці пачула яго маці. У гэты момант, казалі, у хаце шуганула з печы агонь, і яна кінулася ратаваць жытло. А Дубок скаціўся долу і прыпусціўся на шлях. Ён ішоў да знойдзенай міны. Стаяў ясны дзень. Адкуль толькі ўзялася ў небе маленькая, але сярдзітая і жахлівая хмурынка, падобная да асінага гнязда. З яе бабахнуў пярун, і маланка ўрэзалася ў сасну, пад якой сядзеў падлетак. І страшэнны выбух скалануў дол. Маці Дубка як толькі ўчула яго, так сярод хаты і ўпала без памяці. Не прыходзячы ў сябе, ішла яна ўслед за дошкамі, у якіх везлі на могілкі тое, што засталося ад Дубка, і шукала вачыма дзядка, якога бачыла раніцай.

…Калі на радуніцу на могілкі прыходзяць сваякі, каб памянуць душы нябожчыкаў, у дальнім недагледжаным кутку, што зарос быльнягом, можна пабачыць ледзь прыкметны грудок зямлі і спарахнелы крыжык, — памяць, што засталася ад Дубка. Старажылы, згадваючы жахлівае здарэнне, абавязкова ўспамінаюць старога з Гібалавіч, які нібыта завітаў у вёску. Але, як пасля выявілася, дзядок гэты на самой справе хварэў і не меў ніякага дачынення да таго трагічнага выбуху.



# Радкі жыцця і акіян паэзіі

**75-годдзе з дня нараджэння Варлена Бечыка — юбілей, які пераносіць нас у шасцідзясятыя-васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя. Складана сказаць, якая кніга вядомага крытыка і літаратуразнаўцы з'яўляецца найбольш значнай для сённяшняга чытача: даследаванне паэзіі А. Куляшова «Шлях да акіяна» альбо дзённікавыя нататкі «Радкі і жыццё», дзе праз разважанні, успаміны, кароткія характарыстыкі блізкіх людзей і шматлікія цытаты выяўляецца цікавы гістарычны перыяд, які пакуль чакае сваіх даследчыкаў з шэрагу маладых літаратуразнаўцаў.**


*Фота Сяргея Панізніка*

*Варлен Бечык.*

В. Бечык нарадзіўся 25 чэрвеня 1939 года: "Я галадаў і мёрз, я не меў дзяцінства, я дзічэў у адзіноце 43-44-га гадоў…" — ёсць такі радок у дзённіку Бечыка, хаця, нягледзячы на слабае здароўе, ён не быў схільны да самашкадавання. Маці В. Бечыка ўдзельнічала ў падпольнай і партызанскай барацьбе, а сын часам вайны жыў у Астрашыцкім Гарадку ў знаёмай жанчыны — Веры Фамінічны. «Калі б яна не ўзяла цябе (сама прапанавала!), не ўцячы б мне ад паліцыі… Расстралялі б нас разам, сынок», — прыгадвала потым Ларыса Кароткая, якая ў 1957 годзе стала кандыдатам філалагічных навук. Менш чым праз дзесяць гадоў гэту навуковую ступень атрымаў і Варлен Бечык. Матчына спецыяльнасць вызначыла сур'ёзнае і адказнае стаўленне да літаратуры: ён жыў кнігамі, выдатна ведаў як сучасных, так і класічных аўтараў, рэгулярна гартаў беларускія і расійскія літаратурна-мастацкія выданні. Пад цытатамі з артыкулаў і нататак Бечыка — прозвішчы Гегеля, Гётэ, Тынянава, Тамашэўскага, Гінзбург... З 1966 па 1971 гг. Варлен Бечык быў літсупрацоўнікам рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» і часопіса «Неман», з 1972 г. — навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, з 1981 г. — намеснікам галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Яго дысертацыйнае даследаванне прысвечана творчасці А. Куляшова: «Надта дарагім і блізкім было ледзьве не ўсё сказанае паэтам. Гэта быў той шчаслівы выпадак, калі творчасць паэта мне, чытачу, здаецца сваёй амаль у кожным слове, ва ўсіх галоўных ураженнях, пачуццях, жаданнях». У крытычных артыкулах Бечык пераважна звяртаўся да паэзіі — на прафесійным узроўні аналізаваў фармальны бок верша, але праз прыватнае абавязкова шукаў шлях да агульных высноў. Паводле М. Мушынскага, у 60 — 70-я гады «паспяхова пераадольвалася аднабаковасць ранейшых падыходаў — разгляд сацыяльных аспектаў творчасці, ідэйнага зместу пры адвачорнай недаацэнцы формы, законаў сюжэтабудовы, кампазіцыі твора, жанравай прыналежнасці, моўна-выяўленчай палітры, сродкаў ажыццяўлення задумы. Увага да гэтага была адным з наглядных доказаў сталення беларускай навуковай думкі».

Але ў 1980 г. у «Радках і жыцці» знаходзім такія роздумы: «Дзіўна ж аналізуюць творы ледзь не ўсе нашы крытыкі: разглядаюць асаблівасці формы, сюжэт, стыль, нейкія якасці зместу як самацэнна галоўныя, істотныя, а не выторныя. Для мяне галоўнае — духоўна-эмацыянальны змест, маральнае дзеянне твора. Тое, дзеля чаго чытаюць кнігі ўсе «звычайныя» чытачы: суперажыць, захапіцца, штосьці зразумець». Верагодна, В. Бечыку ў нейкай ступені бракавала і магчымасці выкарыстання новых літаратуразнаўчых метадалогій, без якіх ці варта сёння весці размову пра М. Танка, Р. Барадуліна, Е. Лось і іншых аўтараў, чыя паэтыка была прааналізавана на старонках «ЛіМа» дзесяцігоддзі таму. Яго заўвагі і сёння падаюцца актуальнымі ў кантэксце пераважна некрытычнага беларускага літаратуразнаўства: дыстанцыя між тагачаснымі крытыкамі і А. Куляшовым ці П. Панчанкам была меншай, чым у выпадку сучасных даследчыкаў.

У рэцэнзіях В. Бечыка голас аўтара заўсёды спакойны і роўны, недахопы твораў ён адзначае тактоўна, але ўпэўнена. Яму дакладна не ўласцівыя недахопы тагачаснай крытыкі, азначаныя М. Мушынскім: кампліментарнасць, беспрынцыпнасць, гатоўнасць да маральнага кампрамісу. У рэцэнзіі на кнігу нарысаў Я. Сіпакова «Па зялёную маланку» В. Бечык асцярожна здзіўляецца героіні, якая, нягледзячы на пустыя працадні, радуецца сялянскай працы, — і фактычна прапануе спалучаць узнёсласць і захапленне з цвярозым, рэалістычным бачаннем рэчаў (ці не на карысць апошняга?). Слушнымі падаюцца многія заўвагі пра тое, як варта працаваць у пэўным жанры ці тэме. Крытык звяртаецца да апавяданняў, прысвечаных ваеннаму дзяцінству, і зазначае наступнае: «Расказаць новыя падрабязнасці, даць яшчэ некалькі ўспамінаў-эпізодаў дзяцінства, няхай сабе нават яркіх і выразных, — сёння ўжо мала. Каб пазбегнуць паўтарэння, вар'іравання шмат у чым падобных жыццёвых гісторый, патрэбна новая псіхалагічная глыбіня, жыццёва і літаратурна новае, вельмі асабістае асэнсаванне…» Яшчэ адной важнай справай тагачасных літаратараў было вяртанне творчасці рэпрэсіраваных пісьменнікаў. В. Бечык быў аўтарам артыкулаў пра У. Хадыку і А. Дудара — хоць і сёння аблічча паэтаў 20-х гадоў застаюцца надзвычай невыразнымі ў ценях помнікаў Купалы ды Коласа.

«Радкі і жыццё» — той самы папулярны цяпер нон-фікшн. Кніга, у першую чаргу, дапамагае ўявіць літаратурнае асяроддзе 70 — 80-х гадоў: В. Бечык бачыць пісьменнікаў адначасова і ў жыцці, і ў творчасці, і, безумоўна, выяўляе прыватнае стаўленне — пераважна добразычлівае. Непаразуменне і непрыманне выклікаюць не самі людзі, а пэўныя праявы сучаснасці: клопат пра граматы і ўзнагароды, расхвальванне пасрэдных аўтараў. Дзённік адкрывае свет вельмі інтэлігентнага чалавека — разумнага, уважлівага, унутрана свабоднага. Голас тагачаснай ідэалогіі тут зусім не гучыць, таму мяжы ў паўстагоддзя між намі нібыта няма. Затое ёсць шмат дагэтуль актуальных пытанняў, шмат думак, якія, здаецца, мог бы адшукаць у сваіх нататках кожны сучасны пісьменнік.

Напрыканцы дзённіка, напрыканцы кнігі «Выбранага» ўсё часцей сустракаюцца імёны новых для В. Бечыка аўтараў: А. Глобуса, Л. Дранько-Майсюка, І. Багдановіч, С. Кавалёва. Шчыра любімых паэтаў даводзіцца абараняць ад скептычнага погляду моладзі, да творчасці якой ён ставіўся з цікавасцю і добра ацэньваў многія творы. Калі б аб'ём культурнай памяці беларусаў быў не такі малы, Варлен Бечык з'яўляўся бы больш вядомай асобай, дый гэты артыкул — з улікам апошняга пераліку прозвішчаў, — напэўна, меў бы іншага аўтара.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# «Падучай зоркі яркі штрых…»

**Кожная новая публікацыя вершаў Віктара Гардзея на старонках часопіса «Полымя» стаецца адкрыццём новых граней у паэтычным набытку аўтара, мастацкіх знаходак-залацінак, што вельмі дарэчы ўпісваюцца ў радкі, надаючы творам асаблівае гучанне, аўру і вабнасць. Кідаецца ў вочы і тое, што аўтар ідзе ад жыццёвых з'яў і фактаў, умее вылучыць самае істотнае і падаць яго такім чынам, што яно звяртае на сябе ўвагу чытачоў, запамінаецца, нярэдка прымушае перачытаць верш. Да гонару паэта, ён — як ніхто з яго пакалення — вельмі востра адчувае мастацкае слова, умела выкарыстоўвае найтанчэйшыя адценні і нюансы.**

І вось на старонках «Полымя» за люты гэтага года змешчаны новы, ладны па памеры твор В. Гардзея «Падучая зорка». Яго можна лічыць маленькай паэмай, але, паколькі па нейкіх прычынах аўтар не вызначыў жанравую прыналежнасць твора, будзем лічыць яго лірычным маналогам. У якасці эпіграфа паэт узяў вядомыя радкі М. Багдановіча «Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?»

Маналог пачынаецца з простай развагі, ці, лепш сказаць, са сцвярджэння, што для нас не ў навіну пабачыць «сярод сусветнага хаосу падучай зоркі яркі штрых». Заўважце, пабачыць не след ад зоркі, а менавіта «яркі штрых». Дэталь не вельмі кідкая, але характэрная для вершаў паэта. У маналогу поруч ідзе маштабнае і дробязнае, узвышанае і прыземленае, і гэтае сударкананне высякае, як крэсіва з крэменю, не толькі іскры, але і тое святло, што па-новаму высвечвае звычайныя рэчы і з'явы.

Аўтар імкнецца не толькі пабачыць зорны свет, але і наблізіць яго да нас. Людзі для паэта не проста зямляне, а нешта значна большае, «пакліканыя і пазваныя». Кім? Відаць, высокім духам вечнасці. Таму «пакліканым — і хлеб з куколлем, пазваным — салады-мяды». Пра што тут? Ды, відаць, пра звычайныя законы нашага існавання і быцця. Адначасова з касмічным, недасяжным аўтара цікавіць і будзённае. Чалавек — жывая часцінка свету і сусвету, што акаляюць яго і ў той жа час знаходзяцца на адлегласці мільярдаў светлавых кіламетраў.

Для аўтара знічка — не проста метэор ці паднебнае цела, а нешта жывое, магчыма, чыясьці душа. Ён гаворыць сабе: «Гукні яе Іванам, Ганнай ды не забудзь перахрысціць». Па народным звычаі безыменная перахрышчаная душа робіцца блізкай нам, нечым накшталт талісмана, які засцерагае ад розных сурокаў і бядот. Паэт, пэўна, з дзяцінства помніць прыкмету, якая перадаецца з пакалення ў пакаленне: «Усторч ад гарызонта ззянне — павер'е ёсць даўным-даўно: загадвай як хутчэй жаданне, і будзе споўнена яно». Канечне, з падзеннем зоркі нашы продкі звязвалі многія моманты і падзеі свайго жыцця, тым самым надаючы ім містычны характар. Антыподам зоркі і яе святла, на думку аўтара, з'яўляюцца кажаны: «Хай Пінску, Тураву, Заслаўю не дакучаюць кажаны».

Пра чарнобыльскую трагедыю В. Гардзей гаворыць напаўголаса, згадваючы і тое, што ёй папярэднічала: «Наш цяжкі грэх наблізіў кару, і цэркваў зрынутых шкада. Пасля прадказанага ўдару згарчэла ў Прыпяці вада». У страфе тоіцца важкі падтэкст: чарнобыльскую катастрофу можна разглядаць як адплату за ўсе беды, прынесеныя рэлігіі ваяўнічымі атэістамі, якія «нізрынулі цэрквы» і перакапалі дарогі да храмаў. Але на гэтым выпрабаванні для людзей не скончацца. Аўтар папярэджвае: «Гусцей на страчаных загонах чарнобыльніку парасля. То — сведчыць Кон — цвяткі стагоддзя, а будуць ягадкі пасля».

Умела завязвае паэт вузлы, звяртаючыся да рэчаў і з'яў, якія згадваў у пачатку лірычнага маналогу. Вось што, напрыклад, сталася з пакліканымі: «Сышлі пакліканыя госці у змест паданняў і балад». Словам цесна, а думцы прасторна. Загадкавасцю і сапраўднай паэзіяй дыхае страфа, якой няма цаны: «Спрадвек ля нівы хлебадайнай // быў пераход, цераз які // апоўначы крадуцца тайна // касцоў і жнеяў двайнікі».

Віктар Гардзей, здаецца, выйшаў на новы для сябе паэтычны абсяг, які пачаў асвойваць плённа і паспяхова.

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

# Ад Багдановіча да Афрыкі

Пяты нумар часопіса «Маладосць» можна падзяліць на тры ўмоўныя часткі: першая прысвечана Максіму Багдановічу, другую складаюць мастацкія тэксты, публіцыстыка і г. д., асобна, у частку трэцюю, варта вылучыць падборку перакладаў афрыканскай паэзіі, якая выйшла ў свет дзякуючы Вользе Гапеевай і Вользе Бубіч. І, канечне ж, да названага далучаецца часопіс «Бярозка».

Постаць Максіма Багдановіча паўстае гэтым разам «у фармаце 3D» — максімальна аб'ёмна, рэалістычна і аб'ектыўна. Мы бачым яго ў сваім часе, для нас мінулым, і ў нашай сучаснасці — стаўленне да яго постаці, да яго паэзіі, нават да варункаў, у якіх Максім Багдановіч жыў і працаваў. Даследчыкі прапануюць уласнае бачанне той ці іншай праблемы (напрыклад, як вытлумачыць такі парадокс: трапяткое стаўленне да дзяўчыны — і сувязь паэта з замужняй жанчынай, банальны курортны раман). Натуральна, цяпер прэтэндаваць на ісціну не можа ніводнае з меркаванняў, але ў якасці менавіта меркаванняў прыведзеныя тэорыі сапраўды цікавыя. Пры гэтым у кожнай публікацыі адчуваецца вялікая павага і далікатнае стаўленне да паэта, а значыць, якім бы блізкім і падрабязным ні было даследаванне, пэўная недатыкальнасць заўжды застаецца. Як сцвярджае дырэктар музея імя М. Багдановіча Таццяна Шэляговіч у інтэрв'ю, змешчаным у гэтым нумары, так і мусіць быць: рабіць з Багдановіча «ўсяго толькі» чалавека было б памылкай.

За добрую працу над багдановічаўскай часткай варта падзякаваць і самому часопісу, і аўтарам, сярод якіх М. Запартыка, І. Мышкавец, А. Жылінская, І. Шорац, Е. Лявонава, М. Бараноўскі, Ц. Чарнякевіч, У. Верына.

Паэзія ў разгляданым нумары «Маладосці» прадстаўлена творамі Вікторыі Ягоравай, Ганны Чумаковай, Алеся Емяльянава-Шыловіча і Анатоля Зэкава. Спадарыня Вікторыя знаходзіцца ў пошуку свайго «Я», імкнецца да самасцвярджэння, і гэта выразна адлюстравана ў яе вершах, больш дэкларатыўных, чым паэтычных. Свае думкі В. Ягорава даверае паперы, зарыфмоўваючы іх, і зарыфмоўваючы ладна, аднак варта прыгадаць, што паэзія — перадусім мастацтва.

Паэтычная нізка А. Емяльянава-Шыловіча — гэта адно суцэльнае прызнанне ў каханні сваёй абранніцы. У кожным радку свеціцца яго вялікая радасць з асабістай нагоды — або жаданне паказаць, што гэтая радасць ёсць. Вершы цёплыя (наіўнае азначэнне, але прывесці хочацца менавіта яго), мілыя, але незапамінальныя. Па прачытанні ў галаве застаецца не вобразы ці радкі — агульнае ўражанне.

Анатоль Зэкаў працягвае працаваць у традыцыйнай для яго і беларускай паэзіі ў цэлым манеры: вершы пра прыроду, каханне, Беларусь, якасныя і някідкія.

У прозе ўпершыню ў «Маладосці» выступіла маладая, але ўжо «акніжаная» Ксенія Шталенкова (аўтарка рамана «Адваротны бок люстэрка»). Цяпер яна прадставіла чытачу два апавяданні, адно з якіх — літаратурны жарт, маленькае хуліганства, якое выклікае ўсмешку — радасную, а не іранічную; другое апавяданне нагадвае прытчу і цэліць на вялікую чалавечую трагедыю — дарэмнасць усякай дзеі (праўда, гэта адна з магчымых трактовак фіналу). Спадарыня Ксенія ўжо цяпер добра валодае мовай, і ёсць падставы чакаць ад яе вялікай працы.

Таксама ў прозе выступаюць Алеся Нікіфарава (у яе апавяданнях выкладзены назбіраныя за 19 гадоў назіранні), Алесь Бычкоўскі (калягістарычныя апавяданні) і Алена Масла (пра яе аповед «Апошні дзень лета» варта будзе пагаварыць іншым разам, больш разгорнута і няспешна).

Аматарам экзотыкі і напросту «іншага» будзе прыемна пачытаць вершы афрыканскіх паэтаў; у іх радках — шмат прыроднага: святло і цені, вятры і ціша, сіла, гвалт і боль, экзатычныя з'явы ды прадметы... У іх паэзіі іншае дыханне, і гэта не можа не заваражваць.




«Бярозка» традыцыйна друкуе творы юных аўтараў, прычым, кола тэм не змяняецца: радзіма, прырода, казкі жывёльнага свету. Прыкметна выбіваецца тэкст Віктара Лупасіна (фінансавыя развагі на фоне свінінкі і ровараў) і рэцэнзія Вітаўта Мартыненкі на альбом Таццяны Беланогай. Думаецца, чытачам «Бярозкі» было б цікава бачыць больш падобных матэрыялаў, аднак, на жаль, аб'ём часопіса застаецца абмежаваным.

**Анастасія ГРЫШЧУК**




# Які бывае рэалізм

Як сцвярджаў адзін заходні аўтар, не можа быць нічога больш прыкрага за рэалізм — як у мастацтве, літаратуры, так і ў каханні. У людзей, якія выраслі пры безумоўным аўтарытэце калі не сацыялістычнага, то крытычнага рэалізму, такое выказванне, верагодна, выкліча нязгоду. Але прыкрых выпадкаў рэалізму таксама багата: пад дэвізам «напісаць пра ўсё як ёсць» многія аўтары альбо апісваюць шэрай мовай нязначныя жыццёвыя эпізоды, альбо расказваюць пра даўно расказанае. Калі лічыць такія творы нулявой кропкай, то адхіляцца ад яе можна ў розных плоскасцях і на розную амплітуду. У новым нумары «Нёмана», які змяшчае творы расійскіх аўтараў, адносна мала нейтральнага, тыповага, пабытавага. Кожны пісьменнік па-свойму ўхіляецца ад бясколернага рэалізму, і вобраз сучаснай Расіі, які атрымліваецца на скрыжаванні, выяўляецца найперш на духоўным узроўні.

Галоўная падзея апавядання Івана Яўсенкі «Нятленны салдат» — знаходка на месцы баёў Вялікай Айчыннай вайны цела забітага савецкага салдата, што захавалася ў гліне. Ад дотыку да маладога байца, які выглядае амаль як жывы, да ветэрана вайны вяртаецца зрок, а сястра забітага распавядае, што старэйшы брат «заўсёды быў нібы Анёл нябесны». Цуд можна патлумачыць не толькі моцнай энергетыкай ваенных подзвігаў, але і богаўгодным жыццём жыхароў недалёкай вёскі. З кожнай старонкай усё больш сялян з Бярэзанкі далучаецца да падзей: напачатку пошукавай брыгадзе дапамагае толькі старэнькі Прошка, а ў заключэнне ўся грамада збіраецца ў хросны ход, каб перанесці цела салдата ў вясковую царкву. Часам падаецца, што І. Яўсенка піша добрую казку ці сучасную агіяграфію: так шмат у творы спагады, узаемнай павагі, сур'ёзных і высокадухоўных людзей. У жыцці ўсё прасцей і драбней, але ідэалізацыя — сцвярджэнне патэнцыяльнай магчымасці лепшага.

У наступным празаічным творы Расія — «спітая і спетая», вочы яе жыхароў блакітныя «ад бяссонніцы і ўчорашняга спірту», а чаромха пахне «тленам адыходзячага рускага жыцця». Герой аповесці Андрэя Анціпава «Горкая трава» — гэта чалавек дна, які «шукае нейкае дзіўнае выйсце для свайго незразумелага болю» і вяжацца з браканьерамі, «б'е магілы» вясковым старым, спіць там, «дзе кішкі заломіць спіртам». Нягледзячы на цікавасць да «пастырнакаўмандэльштампаў», ён не адчувае ў сабе «нейкіх глыбінных непарыўных каранёў», блукае па Расіі, спазняецца на пахаванне маці, страляецца, але выжывае… Для тых, хто не баіцца натуралізму і не лічыць выяўленне нацыянальных праблем прыніжэннем народнай годнасці, аповесць маладога празаіка з іркуцкага сяла Падымахіна, верагодна, будзе лепшай публікацыяй нумара. Тут і багацце метафар, і яркая мова…

«Горкая трава» — твор, дыяметральна супрацьлеглы «Нятленнаму салдату» паводле мастацкага модусу. Але ці абавязкова ўцякаць ад рэальнасці, калі дастаткова проста ўсведамляць, навошта і для каго ты пішаш? Бо каб распавядаць пра жыццё як яно ёсць, існуюць жанры дакументальнай літаратуры — «самы папулярны сёння нон-фікшн», паводле А. Казінцава. Натуральна, аснова дакументальнага твора — не трывіяльная з'ява, а значная падзея, актуальная праблема. Апавяданні Алены Тулушавай прысвечаны праблемным падлеткам, з якімі давялося працаваць у рэабілітацыйным цэнтры. Разуменне таго, што ў творах адсутнічае мастацкі вымысел і выяўлены сапраўдны чалавечы лёс, толькі ўзмацняе ўражанне ад прачытанага. Пісьменніца бачыць сваіх герояў пад розным вуглом, у розных жыццёвых сітуацыях, тэма яе апавяданняў бясспрэчна важная і для нашай краіны.

Пяты нумар «Нёмана» не чытаецца пад каву з шакаладам: і ў прозе, і ў паэзіі размова часта датычыць вельмі драматычных момантаў. Але істотна, што для некалькіх дзясяткаў аўтараў безумоўнай каштоўнасцю з'яўляецца мір між народамі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Светлы след «Полымя»

Лічу ўдачай, калі хоць адзін нешараговы твор трапляецца ў выданні. Тым больш калі такіх твораў некалькі. З захапленнем і ўдзячнасцю чытала майскі нумар часопіса «Полымя», заўважна афарбаваны ў ваенны колер. Гэта датычыць і шмат якіх паэтычных твораў, і цэнтральнага тэксту — аповесці Уладзіміра Саламахі «Не цурайся веры сваёй...».

Сапраўды, далёка не ўсё мы ведаем пра вайну, далёка не ўсе трагедыі спасціглі. Аўтар чарговай «ваеннай» аповесці засяроджаны на лёсах выжыўшых жыхароў спаленай вёскі — гэтых нібыта шчаслівуцаў, а насамрэч глыбока прыгнечаных людзей. Паўстае і іншы, нечаканы матыў: лёс бацькі вясковага паліцая. «Перад уладай ён не вінаваты» (трэба ж! іншы раз нкусаўскі «закон» дэманстраваў гуманнасць!), але ж купка ацалелых вяскоўцаў, якія страцілі родных, сваякоў, суседзяў, дах над галавой — увесь натуральнавыклы лад жыцця, — проста фізічна не можа бачыць яго, тым больш мець з ім стасункі. Як такому бацьку жыць далей?.. Гэта і ёсць галоўны матыў драматычнага напружання твора.

Месціць часопіс і яшчэ адну, рызыкну сказаць, выбітную аповесць: «Бляск камянёў цудоўных» Ірыны Лявонавай. Ці не занадта шчодрая я ў ацэнках? Здаецца, не. Экспазіцыя, якая адначасова з'яўляецца завязкай, нейкім незразумела натуральным чынам (вось жа ўмеюць людзі пісаць!) прымушае ў ёй удзельнічаць — дзякуй богу, што толькі сведкам, бо тое дзеянне каштавала героям жыццяў. Далей паступовы, нязмушаны ўваход чытача ў асяроддзе Судэцкіх гор будзе сінтэзаваны з уласна сюжэтам на фоне эпідэміі чумы ў тых гарах (увогуле ў Еўропе) падчас XVII стагоддзя. Развязка прымусіць ледзь не скурай адчуць безліч разоў чутую, але толькі зрэдку сапраўды пераканаўча ўвасобленую мараль: не хапай чужога!

Надзвычай моцны — цікавы, разнастайны, грунтоўны — публіцыстычны блок нумара. Не магло не крануць — ізноў-такі дзякуючы эфекту «пагружэння» — вандроўнае апавяданне Уладзіміра Мароза «Светлы след», занатаваная пілігрымка ў Святую зямлю. Аўтар з двума калегамі-кіношнікамі здзейсніў падарожжа як па закліку сэрца, так і згодна з прафесійнымі планамі, прымеркаваўшы яго да Вялікадня. Аўтар сцвярджае хрысціянскі бок уражанняў. «Тут, на Святой Зямлі, узнікае непадробнае адчуванне, што ты трапіў у іншасвет, што двух тысячагоддзяў не было, што Хрыстос толькі-толькі хадзіў па гэтай зямлі, пакідаў на ёй свае сляды. Сляды, якія не згубіліся, не сцерліся, да якіх ты можаш дакрануцца, далучыцца душою да Ягоных дзеяў. <…> Радуешся, што словы Новага запавету ўвасобіліся для цябе ў зрокавую рэальнасць».

Сэнс пілігрымкі і ўвасобленага ўражання пра яе У. Мароз тлумачыць проста і шчыра: «У любы момант, калі на душы радасна ці самотна, ты можаш згадаць убачаны ўвачавідкі на зямлі Ісуса светлы след, які лучыць дольні і горні свет. Ды ісці па жыцці далей».

Эсэ Алеся Марціновіча «Згарэў чырвонаю зарою» — пра паэтамаладнякоўца Паўлюка Шукайлу. Ён з тых творцаў, чые сляды амаль губляюцца ў скрушных часы 1930-х, зрэдку ўсплываючы ва ўспамінах паплечнікаў, якім суджана было захаваць жыцці і ўжо ў блізкія нам часы выдаць свае творы, нарысы, дзённікі. Пра Паўлюка Шукайлу мы ведаем у асноўным з нарыса Янкі Скрыгана «Госці з Мінску». Адзінкі літаратуразнаўчых артыкулаў пра паэта не даюць яскравай карціны, бо апрыёры скіраваны на «сухія» звесткі. Алесь Марціновіч спрабуе «ажывіць» асобу кіроўцы слуцкай філіі «Маладняка». «Такі ўжо




характар меў Паўлюк Шукайла» — лейтматыў эсэ, у якім ёсць штосьці ад агіяграфіі. Не ў тым сэнсе, што аўтар сакралізуе постаць свайго героя, але ў тым, што не шкадуе ні эмоцый, ні часу дзеля ўсведамлення складанасці асобы і лёсу адной з персаналій гісторыі беларускай літаратуры.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Фальклор на ўзроўні душы

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Варта падкрэсліць, што фестываль «Берагіня» — гэта не толькі чатыры дні заключных імпрэз. Гэта вялікі і грунтоўны праект па вывучэнні спадчыны сваёй мясцовасці, які рэалізоўваецца ўдзельнікамі цягам двух гадоў. Гэта карпатлівая навуковая і даследчая праца па аналізе крыніц розных відаў, экспедыцыйныя пошукі, бясконцыя гутаркі з прадстаўнікамі старэйшага пакалення. Тут звяртаецца ўвага на розныя аспекты праяўлення творчасці народа. *Песні і наігрышы на музычных інструментах* выконваюцца канкурсантамі ў намінацыях «Ансамблевыя спевы» і «Сольныя спевы», пры гэтым ацэньваецца як музычная якасць прадстаўлення, галасістасць выканаўцаў, так і унікальнасць матэрыялу, яго навізна і адпаведнасць мясцовасці.

Мастацтва выканання народных побытавых *танцаў* ацэньвае высокапрафесійнае журы, але тут важная не толькі дакладнасць рухаў, зладжанасць пар, але і ўменне трымацца на сцэне, артыстычнасць, адпаведнасць рухаў таму варыянту танца, што распаўсюджаны ў пэўнай мясцовасці. Асаблівая ўвага звяртаецца на *касцюмы* выканаўцаў: даўжыня спадніцы, наяўнасць ці адсутнасць вышыўкі на фартуху і кашулі ў дзяўчат, вышыўка на кашулях, асаблівасці нашэння галаўных убораў у хлопцаў.

Вышытыя ручнікі, посцілкі, вязаныя хусткі, разнастайныя вырабы з дрэва і саломкі дэманстраваліся на рэгіянальных выстаўках *дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва*. Тут жа, каля галоўнай фестывальнай сцэны, разгарнуўся кірмаш народнай творчасці, дзе можна было пабачыць паменшаную копію ткацкіх кроснаў, пакаштаваць адметныя мясцовыя стравы і пагуляць у вясёлыя гульні.

Сябар выканаўчага камітэта Беларускага фонду культуры Тадэуш Стружэцкі невыпадкова падкрэсліў:

— Фестываль «Берагіня» — гэта вельмі цікавы метадычна-творчы праект, і менавіта гэтым ён адрозніваецца ад усіх астатніх фэстаў, што праходзяць у нашай краіне. Мы не можам яго ўспрымаць толькі як свята для горада. Гэта цэлая школа, у межах якой праводзіцца сур'ёзная, грунтоўная і працяглая падрыхтоўчая праца перш за ўсё ўдзельнікамі, кіраўнікамі калектываў, а сам фестываль з'яўляецца прыгожым фіналам шматмесячнай ці нават шматгадовай працы па вывучэнні таго ці іншага віду мастацтва. Гэта своеасаблівая школа і для ўдзельнікаў фестывалю, і для спецыялістаў — кіраўнікоў калектываў, прадстаўнікоў метадычных службаў ды і саміх арганізатараў. Вельмі важна, што вакол фестывалю сфарміраваўся аўтарытэтны навукова-творчы актыў, кожны ўдзельнік якога з'яўляецца значнай асобай у сваёй галіне. Такія непасрэдныя сустрэчы са спецыялістамі, абмеркаванні, «круглыя сталы» па выніках фэсту асабліва важныя для кіраўнікоў калектываў. Пасля кожнай сустрэчы кіраўнікі вырастаюць, а калектывы набываюць большы досвед.



*Нават мядзведзі запрашалі гасцей на кірмаш народнай творчасці.*

***

І сапраўды, абмеркаванне з удзелам экспертаў ператваралася ў сапраўдную гарачую дыскусію. Важна, што падчас заключнага «круглага стала» «Фестываль фальклорнага мастацтва «Берагіня» — дваццацігадовы шлях» прайшло абмеркаванне канцэпцыі наступнага фэсту, заключны этап якога пройдзе праз два гады, але актыўная падрыхтоўка распачнецца ўжо ўвосень.

Вельмі слушную думку выказала доктар філалагічных навук, вядомая даследчыца фальклору Таццяна Валодзіна:

— Раней, прыязджаючы на «Берагіню», я чула, што практычна ўсе ўдзельнікі калектываў паміж сабой размаўляюць амаль як дома — на дыялекце сваёй мясцовасці. А цяпер ці не стопрацэнтна чуецца руская мова. Марку трымаюць толькі ўдзельнікі з Маларыты. Мне падаецца, што калі мы на ўзроўні канцэпцыі прапісваем неабходнасць вытрымліваць мясцовы стыль у песенным, танцавальным мастацтве, то патрабаванне захоўваць дыялект таксама мусіць быць абавязковым. Натуральна, шмат залежыць ад кіраўнікоў калектываў, але тым не менш, можа, хоць на ўзроўні «Берагіні» варта пераламаць стэрэатып, што вясковая гаворка — гэта нешта калгаснае. Уменне гаварыць так, як гаворыць бабуля, — не меншае багацце, чым здольнасць станцаваць бабулін танец. Натуральна, дзеці, якія прайшлі праз «Берагіню», прыехаўшы ў Мінск, вернуцца да мовы. Бо сёння, згодна са статыстыкай, беларуская мова з мовы вёскі ператварылася ў мову эліты, высокаадукаванай інтэлігенцыі. Гэта вельмі важная прыступка і ў руху развіцця фэсту «Берагіня». Трэба, каб мясцовыя гаворкі гучалі не толькі падчас спаборніцтва ў намінацыі «Народная проза», алемі ў міжасобасных зносінах удзельнікаў і кіраўнікоў калектываў.



*Традыцыйнае пляценне вяночкаў перад удзелам у відовішчным «Рудабельскім Купаллі».*

***

Вось, так бы мовіць, навукова-метадычны бок фестывалю. Ёсць у «Берагіні» іншы твар — вясёлы, забаўляльны, відовішчны. Гэта і ўрачыстыя шэсці ўсіх удзельнікаў, апранутых у народныя строі. Пад заліхвацкую музыку і спевы яны ператвараюцца ў сапраўдны карагод і калейдаскоп радасці. Гэта і традыцыйнае пляценне вяночкаў перад «Рудабельскім Купаллем», якое праводзіцца на беразе возера выкладчыкамі і студэнтамі кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ, і ваджэнне карагодаў, і ўшанаванне Купалінкі ды Купаліша, і фальклорныя вечарыны-майстар-класы, падчас якіх можна было проста да знямогі скакаць народныя танцы.

Гэта і старажытныя вераванні беларусаў, якія, трансфармаваўшыся з цягам часу, усё яшчэ не страцілі сваёй значнасці. Так, падчас Купалля, каб мець шчасце ў жыцці, старыя людзі раяць абавязкова прайсці праз адмысловую браму — уваход на месца святкавання. А як жа без пошукаў купальскай кветкі? Дарэчы, гэты незвычайны сімвал падчас сёлетняга святкавання быў знойдзены! Яго заўважыла журналіст і даследчыца Рэгіна Гамзовіч у… форме вогнішча, якое, крыху пагарэўшы, прыгожа раскінулася ва ўсе бакі, утварыўшы наверсе менавіта кветку. Магчыма, проста бярвенні былі ўмела складзеныя? А можа, і сапраўды, згодна з легендай, той, хто здолеў пабачыць кветку, будзе ў гэтым годзе празорлівым?

Намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Анатоль Бутэвіч заўважыў:

— Гэты фестываль мне бачыцца вельмі добрай школай, дзе вучаць моладзь, як шанаваць сваё, быць самімі сабой і ўмець ганарыцца тым, што маем. Мне дагэтуль помняцца словы адной бабулькі, якія я пачуў вельмі даўно, у студэнцкія гады, падчас фальклорнай практыкі: «Вы не глядзіце, як я сёння танцую, я танцую з малых гадоў». «Берагіня» — гэта менавіта танец з малых гадоў, бо калі дзеці сёння навучацца танцаваць, значыць, у гэтай справе ім забяспечана вялікая будучыня.

Дарэчы, Анатоль Іванавіч сёлета ўпершыню завітаў на фэст з намерам пабыць у Акцябрскім толькі два дні, але, пабачыўшы танцы дзяцей і пачуўшы спевы, застаўся да канца фестывалю. Думаецца, гэта не выпадкова, бо многія адзначаюць, што «Берагіня» мае здольнасць захапляць сваёй незвычайнай атмасферай, энергетыкай і кожны, хто хаця б аднойчы стане госцем фэсту ў ролі турыста, прадстаўніка прэсы, удзельніка ці эксперта, абавязкова вернецца сюды праз два гады, каб зноў ачысціць душу праз спатканне з беларускім фальклорам. Таму — да сустрэчы ў 2016-м. Чакай нас, «Берагіня»!

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

# Анталогія традыцый

Гэтымі днямі вядомы этнамузыколаг Тамара Варфаламеева адзначае свой 70-гадовы юбілей.

Антраполагі і філосафы лічаць, што ў традыцыйнай культуры схаваны досвед тысячагадовай паспяховай адаптацыі чалавека да прыроды і грамадства. З гэтым звычайна не спрачаюцца, але забываюць, што пад традыцыяй варта мець на ўвазе не спадкаемства культуры ўвогуле. Бо ў такім выпадку традыцыйнай трэба лічыць сучасныя ўрбаністычныя культуры, якія частку свайго зместу таксама перадаюць праз спадкаемства паміж пакаленнямі. Традыцыя — набор глыбінных узораў гарманічнага светаўспрымання, якія зашыфраваны ў пэўных формах камунікацыі асобы з супольнасцю і прыродай: у мове, каляндарных і сямейных рытуалах, этнічных спевах і харэаграфіі. І чым больш нашыя сучаснікі аддаляюцца ад традыцыйнага ладу жыцця, тым больш каштоўнымі і патрэбнымі для грамадства з'яўляюцца намаганні аналітыкаў па вывучэнні і захаванні народнай культуры. Этнамузыколаг Тамара Варфаламеева — даследчык, які шмат год мэтанакіравана і паслядоўна працуе над фіксацыяй, аналізам, падрыхтоўкай тэматычных выданняў, папулярызацыяй і стварэннем умоў захавання этнічнай спадчыны беларусаў.

Як неаднаразова адзначала сама Тамара Барысаўна, «сучасны стан беларускай традыцыйнай мастацкай культуры характарызуецца суіснаваннем дзвюх яе формаў — актыўнай і пасіўнай. Згодна з першай формай — традыцыі ў натуральным выглядзе працягваюць жывое існаванне ў побыце вяскоўцаў і вылучаюцца значнай ступенню самаарганізаванасці; згодна з другой — жыццё традыцыі працягваецца толькі ў памяці старэйшага пакалення сельскіх жыхароў, якая ўчэпіста ўтрымлівае падрабязныя звесткі пра самыя розныя праявы традыцыйнай культуры, што яшчэ зусім нядаўна былі для гэтых людзей натуральным жывым асяроддзем». Такі погляд дапамог сфарміраваць прынцыповую жыццёвую пазіцыю даследчыка і грамадскага дзеяча, якая разам з працаздольнасцю, прафесіяналізмам і сумленнем дазваляе Тамары Барысаўне шмат год плённа працаваць у кірунку экспедыцыйнай этнамузыкалагічнай дзейнасці і азнаямлення грамадскасці з яе вынікамі (сумесныя выданні з яе настаўнікам, антраполагам і музыказнаўцам Зінаідай Мажэйка, «Песні беларускага Падняпроўя» і «Песні беларускага Панямоння»); педагогікі (яна паспяхова выкладае ва ўніверсітэце культуры і мастацтваў, кіруе даследаваннямі магістрантаў і аспірантаў у Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі); этнакультурнага выхавання і этнамастацкай адукацыі (супрацоўніцтва ў праекце Міністэрстваў культуры і адукацыі Беларусі «Традыцыйная культура і дзеці» і шматэтапным мастацка-выхаваўчым фестывальным праекце «Берагіня», распачатым разам з Міколам Козенкам). Але асаблівая важнай і яркай бачыцца не так даўно завершаная маштабная праца — падрыхтоўка навуковай серыі «Традыцыйная мастацкая культура беларусаў». Тут Тамара Барысаўна выступіла ў якасці аўтара ідэі, каардынатара і навуковага рэдактара.

Сама Т. Варфаламеева падкрэслівае, што задача серыі — даць комплексны паказ рэгіянальнага багацця і разнастайнасці асноўных відаў традыцыйнай мастацкай культуры ў яе аўтэнтычных формах на рубяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў. Якасць і дакладнасць выданняў серыі цяжка недаацаніць, паколькі кожны том грунтуецца на арыгінальных матэрыялах шматлікіх фальклорна-этнаграфічных экспедыцый, праведзеных з 1993 па 2013 гады ва ўсе раёны Беларусі. Тамара Барысаўна і аб'яднаныя ёю калегі-даследчыкі — этнографы Таццяна Кухаронак і Ірына Мазюк, філолагі Алена Боганева і Таццяна Валодзіна, спецыялісты па народным дэкаратыўным мастацтве Вольга Лабачэўская і Ірына Смірнова, этнахарэолаг Мікола Козенка — бліскуча даказалі: якім бы ні быў фальклорны матэрыял, сродкі і прыёмы яго выяўлення, каранёвае этнаграфічнае мастацтва беларусаў ва ўсіх выпадках праецыруюцца ў галіну народных уяўленняў, вераванняў, светаразумення, цэласнай і этнаэкалагічнай народнай карціны свету. Пастаўленая ў свой час адна з галоўных задач серыі — раскрыць традыцыйную культуру, гледзячы на яе не толькі вачыма прафесійных даследчыкаў, а ў першую чаргу саміх носьбітаў,— была паспяхова выканана і дае падставы лічыць «Традыцыйную мастацкую культуру беларусаў» адным з найбольш актуальных і сацыяльна запатрабаваных комплексных выданняў беларускай гуманітарнай навукі.

**Вячаслаў КАЛАЦЭЙ**

*Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі*



*Унікальны праект*

# Народу на ўхвалу

Урачыстая прэзентацыя і цырымонія перадачы першых пяці тамоў факсімільнага выдання «Кніжная спадчына Францыска Скарыны» прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Праект па факсімільным узнаўленні поўнага рэпертуару кніг, што былі надрукаваны Францыскам Скарынам у Празе і Вільні, распачаўся напрыканцы мінулага года.



Фота Кастуся Дробава

*Намеснік дырэктара НББ па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Алесь Суша прадстаўляе праект «Кніжная спадчына Францыска Скарыны».*

А сёлета мы ўжо маем першыя здабыткі сумеснай працы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Банка БелВЭБ, які ажыццяўляе фінансавую падтрымку гэтай надзвычай важнай справы.

— Праект дапаможа нам аднавіць духоўныя карані, што Скарына хацеў данесці да людзей, — заўважыў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі краіны Раман Матульскі. — У свой час ён зрабіў амаль неверагоднае. Кнігі, што ствараліся год ці нават дзесяцігоддзі, пачалі з'яўляцца на свет за некалькі тыдняў ці дзён. Кнігі, на якія трэба было патраціць цэлыя маёнткі, сталі каштаваць намнога менш. Кнігі, да якіх маглі дакранацца толькі святары падчас царкоўнай службы, сталі даступнымі шырокаму колу чытачоў. Іх Скарына рыхтаваў не толькі як элемент царкоўнага жыцця, але і як энцыклапедыю, першы падручнік, па якім варта вучыцца.

Першыя пяць кніг факсімільнага ўзнаўлення спадчыны нашага першадрукара былі ўрачыста перададзеныя кіраўнікам дыпламатычных місій краін, якія мелі гонар сустракаць і ведаць нашага вялікага суайчынніка. Такім чынам, дакрануцца да спадчыны Францыска Скарыны ўжо могуць прадстаўнікі пасольстваў Германіі, Італіі, Польшчы, Расіі, Украіны, Чэхіі, якія працуюць у нашай краіне.

— Той, хто ўпершыню здолеў стварыць кнігу, гэтую каштоўнасць для чалавецтва, вельмі хацеў адысці ад гулу жыцця, прагнуў цішыні, — зазначыў міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў, — Застаўшыся сам-насам з кнігай, мы дакранаемся да вялікай эстэтычнай, мастацкай каштоўнасці — цішыні. Я вельмі ўдзячны Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, бо галоўнае — не толькі распачаць праект, але і працягнуць яго ў такім незвычайным выглядзе. Гэта напамін пра тое, што наш славуты суайчыннік — чалавек, які належаў не толькі беларускай, але і ўсёй еўрапейскай культуры, — зрабіў важкі ўнёсак у развіццё хрысціянства. Ён падрыхтаваў многім народам вялікі і каштоўны падарунак — кнігу.

Адметна, што выдавецкі праект па факсімільным узнаўленні спадчыны Ф. Скарыны разлічаны на перыяд з 2013 па 2017 год. Так, да 500-годдзя беларускага кнігавыдання на паліцах бібліятэк можна будзе пабачыць усе 22 кнігі, што калісьці выйшлі з-пад варштата славутага палачаніна. Гэтыя выданні цяпер суправаджаюцца каментарыямі навукоўцаў, а таксама здзейсненымі ўпершыню перакладамі прадмоў і пасляслоўяў Скарыны на сучасныя беларускую, рускую і англійскую мовы.

— Калі мы пачыналі гэты праект, першай нашай мэтай было тое, каб 500-гадовы юбілей беларускага кнігадрукавання не наступіў знянацку, — падкрэсліў Раман Матульскі. — Таму вырашылі падрыхтавацца. Францыску Скарыне і яго творам не вельмі шанцавала, як і яго юбілеям. Аказалася, што 17-ы год кожнага стагоддзя ў гісторыі нашых зямель быў неспакойны. У 1917 годзе ідзе Першая сусветная вайна, адбываецца рэвалюцыя. На 100 гадоў раней, пасля вайны 1912 года, было таксама не да святкавання. Але мы верым, што 2017-ы стане шчаслівым для ўсёй Еўропы і мы ўсе разам будзем мець магчымасць адзначыць гэтае свята.

Ужо сёння можна сцвярджаць, што праект па выданні факсімільнага ўзнаўлення спадчыны Ф. Скарыны паспяховы, ён знайшоў сваіх прыхільнікаў сярод прадстаўнікоў бібліятэчных, навуковых колаў, шырокай грамадскасці, а таксама стаўся новым крокам у супрацоўніцтве з іншымі краінамі, дзе жыў, вучыўся і працаваў наш знакаміты суайчыннік. Так, у аснову новых факсімільных выданняў пакладзены электронныя копіі кніг першадрукара, што сёння зберагаюцца ў бібліятэках і музеях Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі, іншых краін.

Першыя пяць выданняў праекта «Кніжная спадчына Францыска Скарыны» ўжо можна пабачыць на паліцах раённых бібліятэк Мінскай вобласці, іх у падарунак атрымалі і навукоўцы, якія працавалі і працуюць над рэалізацыяй гэтага праекта.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Погляд*

# Копія ці арыгінал?



Ілюстрацыя з сайта intaliadv.ru

Дзе яшчэ можна ўбачыць такі палёт фантазіі і ацаніць, наколькі аб'ёмна аўтар уяўляе свет? Наколькі пэўна пісьменнік можа паказаць зусім новую рэчаіснасць? Чытач павінен паверыць у створаны сюжэт, акунуцца ў яго!

Гэты непаўторны аўтарскі свет і адлюстроўваюць гістарычныя раманы з фантастычнымі дапушчэннямі, творы, напісаныя на аснове фальклору. Калі ўспомніць класіку беларускай літаратуры, то нельга не згадаць пра бацьку фальклорнай фантастыкі Яна Баршчэўскага і яго Шляхціца Завальню. Навуковая фантастыка прапаноўвае і палёты ў космас, і спробы навуковых тлумачэнняў існавання машыны часу. Увогуле, фантастыка — пляцоўка, дзе аўтар можа паказаць усю сваю багатую фантазію, сваё выключнае ўяўленне свету.

Дык дзе, як не ў гэтым жанры, ствараць штосьці непаўторнае, адпускаючы думкі на волю, не стрымліваючы іх нічым: ні законамі фізікі, ні нашай картай, ні адсутнасцю чараўніцтва ў жыцці? Фантастыка — жанр прозы, якім немагчыма не зачытвацца. І людзі зачытваюцца. А потым часта кажуць: «Не магу ачуняць пасля чытання. Хачу яшчэ штонебудзь такое ж!». Раманы, напісаныя таленавіта, часта параджаюць іншае меркаванне: «А я магу і не горш!» Першая фраза выклікае попыт, а другая яго задавальняе.

Вось тут і выходзіць на сцэну спадар Плагіят. Ён радасна прыносіць кнігі першым і адыходзіць на кубачак гарбаты да другіх. Так у выдавецтвы трапляюць тэксты, на якія ёсць попыт. Гэта шматлікія дэтэктывы, нязграбны, як маленькі шчанюк, гумар (аднак шчанюкі нас замілоўваюць, а «сякерны гумар» — не). Ну і, вядома ж, рамантычныя гісторыі. Куды нам без іх! Дзяўчаты ўсіх часоў і народаў палівалі слязьмі не адну кнігу «ружовых» тэкстаў. Прадстаўніцы слабога полу дагэтуль зачытваюцца раманамі пра бледных ікластых хлопцаў — вампіраў. Так і ўваходзіў у літаратуру «фантастычны лоўбургер». Чаму гэты жанр называецца менавіта так? Як і фастфуд, гэта нібыта ежа, але калі паглядзець аб'ектыўна… Чытаеш — і здаецца, што кардонныя героі так і рыпяць на зубах. З кнігі ў кнігу вандруюць аднолькавыя, як браты-двайняты, сюжэты.

З твора ў твор дагэтуль скачуць рудыя вядзьмаркі на конях. А ва ўсім вінаватая непаўторная і запамінальная вывява галоўнай гераіні рамана беларускай фантасткі Вольгі Грамыкі, у творы якой некаторым чытачкам не хапіла кахання. Вось яны і змалявалі кальку са «шкоднай вядзьмаркі», прыпісаўшы да сюжэта ўжо сваёй кнігі тое, чаго ім нехапала ў арыгінале.

У выніку атрымалася мноства зусім не арыгінальных копій ужо існуючага тэксту. Але арыгінал заўсёды лепшы за копію, ці не праўда?

**Святлана КУРГАНАВА**

*Прэзентацыя*

# Бальнічны дэкамерон

Хутка на экране з'явіцца дванаццацісерыйны фільм, прысвечаны самай галоўнай таямніцы ў чалавечым жыцці. Ён зняты паводле кнігі Юліі Ляшко «Мамачкі мае… ці Бальнічны дэкамерон», што пабачыла свет у ІПА «Рэгістр».

Прызвычаіўшыся да нерэальных жарсцяў, апошнім часам мы забыліся, што любоў — гэта найперш адказнасць. Што адбываецца з сям'ёй, у якой вось-вось павінна з'явіцца дзіця? Як раскрываюцца героі, якім хутка наканавана ўзяць на сябе новыя ролі — таты і мамы? На што спадзяюцца і чаго жадаюць будучыя матулі, кожная з якіх можа ўпэўнена сказаць, што яна цяпер — два чалавекі, «адзін унутры, і я — звонку»? Чым жывуць і дыхаюць урачы, якім наканавана штодзень ахоўваць гэтую ручаіну працягу чалавечага жыцця?

Рэжысёр Іван Паўлаў стварыў фільм, кожная з частак якога — асобная самастойная гісторыя, аб'ядналая агульным месцам дзеяння — радзільным домам, паводле сцэнарыя Юліі Ляшко і Людмілы Перагудавай. Выканальніца галоўнай ролі — доктара ў фільме — актрыса Вера Палякова.

На пытанне, чым адрозніваецца кніга ад кіно, Юлія адказала:

— На жаль, сцэнарыст вельмі залежыць і ад прадзюсара, і ад рэжысёра. Шмат сцэн давялося перарабляць, таму што бюджэт фільма быў вельмі сціплы. У кнізе ж галоўнай гаспадыняй стала думка аўтара: можна было змяшчаць герояў у любыя абставіны, а месцам дзеяння зрабіць і салон самалёта. Да таго ж кніга дала магчымасць глыбей раскрыць характары герояў. Напрыклад, паводле сцэнарыя, доктар павінна быць бездакорнай, а ў кнізе цікава прапрацавана яшчэ адна сюжэтная лінія: у галоўнай гераіні прыгожы калега, якому яна падабаецца, і ёй як жанчыне вельмі прыемная гэта ўвага. Назіраючы, ці трапяць героі ў пакутлівы любоўны трохкутнік, чытач не губляе напружання да апошняй старонкі рамана.

Безумоўна, персанажы «Мамачак…» прыйдуцца даспадобы і глядачам, і чытачам. Прычым, не толькі жанчынам. Дарэчы, будзе добрая нагода паразважаць і пра ролю бацькі, і пра сям'ю ўвогуле. «А можа, менавіта ўвага да галоўнага прызначэння сям'і стане той самай нацыянальнай ідэяй, якая павінна аб'яднаць народ?» — паразважала падчас прэзентацыі Людміла Перагудава. Думаецца, гэтае пытанне сёння актуальнае для многіх краін.

**Анастасія СЯМЁНАВА**

# Руткоўскі: вяртанне на Радзіму



Іграе Марэк Стэфаньскі.

Урачыстасці з нагоды 50-й гадавіны з дня смерці знакамітага выхадца з пасёлка Камаі Браніслава Руткоўскага, выдатнага арганіста, польскага музыказнаўцы, кампазітара і публіцыста, педагога і грамадскага дзеяча, адбыліся на пачатку чэрвеня ў Камаях, Паставах і польскім Кракаве.

Летась падчас знаходжання ў Польшчы пашчасціла пабываць на адным з канцэртаў 67-га міжнароднага фестывалю арганнай музыкі ў Гданьску-Аліве. Заснавальнікам яго, як і многіх іншых арганных фэстаў, быў Браніслаў Руткоўскі. У касцёле Святога Яна Хрысціцеля ў Камаях ён пачынаў творчую кар'еру ў якасці памочніка арганіста, пазней ужо сам іграў на аргане ў Кабыльніцкім касцёле (цяпер пасёлак Нарач на Мядзельшчыне). Далейшы лёс выхадца з Пастаўскага раёна звязаны з Польшчай.

Б. Руткоўскі лічыцца стваральнікам пасляваеннай Кракаўскай арганнай школы, якая стала фундаментам не толькі польскай арганістыкі, але і распаўсюдзілася на іншыя краіны Усходняй Еўропы. Грунтоўную адукацыю ён набываў у Санкт-Пецярбургскай і Варшаўскай кансерваторыях, вывучаў паланістыку ў Віленскім універсітэце. Быў таксама стыпендыятам у Парыжы, дзе вучыўся ў сусветна вядомага арганіста сабора Нотр-Дам Луі Вернэ.

Сваю педагагічную дзейнасць пачаў у Варшаўскай кансерваторыі, адначасова служыў арганістам у Архікатэдры Святога Яна Хрысціцеля ў Варшаве. Актыўна супрацоўнічаў з Польскім радыё — рыхтаваў шматлікія музычныя праграмы. Быў ініцыятарам стварэння Таварыства старажытнай музыкі і з'яўляўся яго старшынёй.

Пасля вайны застаўся ў Кракаве, дзе з 1946 года выкладаў на кафедры арганаў у Дзяржаўнай вышэйшай музычнай школе (цяпер Кракаўская акадэмія музыкі). З 1955 па 1964 год быў яе рэктарам. У 1957-м заснаваў кафедру арганаў і клавесіна ў Кракаве, якая каардынавала працу ўсіх арганных класаў іншых ВНУ Польшчы. Працаваў журналістам і галоўным рэдактарам часопіса «Рух музычны». Жыццёвы шлях закончыў у храме — памёр у касцёле Святога Томаса ў Лейпцыгу падчас працы ў журы Бахаўскага конкурсу.

У пачатку года падчас наведвання Камаяў разам з дырэктарам Польскага інстытута ў Мінску Уршуляй Дарашэўскай і вядомым польскім арганістам, прафесарам Кракаўскай акадэміі музыкі Марэкам Стэфаньскім у нас узнікла ідэя рэалізаваць сумесны праект, прысвечаны Б. Руткоўскаму. Гэтую прапанову актыўна падтрымалі ксёндз-пробашч Камайскага касцёла Яцэк Гутман і намеснік старшыні Пастаўскага райвыканкама Юрый Кісялёў.

Ушанаваць памяць Браніслава Руткоўскага ў Касцёле Святога Яна Хрысціцеля сабраліся мясцовыя жыхары з усёй акругі, а таксама шматлікія госці. Сярод іх — біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, дырэктар Польскага інстытута Уршуля Дарашэўска, прафесар Марэк Стэфаньскі, Генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк, пляменніца Б. Руткоўскага Яніна Сівіцкая, кіраўніцтва Пастаўскага раёна і іншыя.

Пасля ўрачыстай імшы адбыўся вялікі канцэрт арганнай музыкі ў выдатным выкананні Марэка Стэфаньскага. Прагучалі многія творы, што любіў і часта выконваў Браніслаў Руткоўскі. Тут, у Камайскім касцёле, на аргане, на якім іграў наш славуты зямляк, яны гучалі надзвычай узвышана, а слухачы ўспрымалі іх з удзячнасцю і слязамі на вачах. Пасля канцэрта адбыўся своеасаблівы тэлемост. Кіраўнік кафедры арганаў Акадэміі музыкі ў Кракаве Міраслава Семянюк-Подраза распавяла пра важкі ўнёсак нашага земляка ў развіццё польскай арганнай музыкі.

Завяршыліся ўрачыстасці ў Камаях адкрыццём шыльды ў прылеглым да касцёла скверы, які будзе насіць імя знакамітага земляка, наведваннем і ўскладаннем кветак на магілы бацькоў і родных Б. Руткоўскага. У планах — адкрыццё ў скверы памятнага знака славутаму земляку.

Арганны канцэрт у выкананні прафесара М. Стэфаньскага адбыўся і ў Касцёле Святога Антонія Падуанскага ў Паставах. Вядучая канцэртаў, дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, музыказнаўца Белдзяржфілармоніі Вольга Савіцкая выдатна прадставіла і арганіста, і творы ў яго выкананні.

Дасягнута дамоўленасць аб правядзенні ў кастрычніку ў касцёлах Пастаўскага раёна II фестывалю «Гучаць старадаўнія арганы Пастаўшчыны» і наданні яму імя Браніслава Руткоўскага. Гэта будзе данінай удзячнасці і памяці пра слыннага земляка.

**Тадэуш СТРУЖЭЦКІ,**
**каардынатар праекта**

*Вернісаж*

# Калі скідваецца карона…



Хочацца збегчы ад інфармацыйнага патоку і ўрбаністычных ціскоў, адчуць яднанне з прыродай і самім сабой? Тады вам абавязкова трэба ўбачыць фотаработы Наталлі Юніцкай-Асіпенка.

Выстаўка «Яднанне» — вынік трохтыднёвай вандроўкі ў Індыю, краіну, жыхары якой вельмі любяць, разумеюць і паважаюць прыроду. Недарма на фотаздымках няма мяжы, якая раздзяляла б жывёл, птушак, акіян і чалавека. Мастачка яднае іх сваімі кампазіцыямі, надае фотаработам вялікую ўнутраную дыялагічнасць. Паўсюль — адзіны рытм і ўзаемасувязь. Нават спакойныя пастэльныя тоны фотаздымкаў сведчаць пра гармонію суіснавання. Цікава, што чалавек на фота зусім маленькага памеру. Надзея Трутнева, аўтар канцэпцыі праекта, заўважыла: «Мне здаецца, што гэта сапраўдны памер чалавека». Выстаўка скідвае карону з галавы ганарліўца, руйнуе тэзіс «Чалавек — цар прыроды».

Куратар выстаўкі Крысціна Лядская адзначыла: «Праект не заклікае да паездкі ў Індыю. Дастаткова азірнуцца вакол сябе, каб адчуць абдымкі прыроды. Фотаработы экспазіцыі — напамін пра тое, што прырода — унікальны рэсурс, які дапамагае нам абудзіць чалавечае ў сабе».

Сама мастачка прызналася, што спачатку не ставіла сабе за мэту рабіць выстаўку, нават канцэпцыя «яднання» адкрылася не адразу. Спачатку Наталля Юніцкая-Асіпенка проста здымала, каб перадаць уласны стан: «У фатаграфіі істотнай для мяне была філасофія. Вельмі ўразіла стаўленне людзей да прыроды, таму і здымала. У гэтых фотаработах усё максімальна захавана. Нічога не прыбіралася і не дапрацоўвалася. Я не люблю пастановачныя фота».

Здаецца, што гэтая спантанная натуральнасць яшчэ больш раскрывае ідэю еднасці з прыродай. Перад намі жывая рэчаіснасць: імпульсіўная, эмацыянальная, без дакументальнай скіраванасці.

Наталля Юніцкая-Асіпенка мае дзве вышэйшыя адукацыі. Працавала выкладчыцай у школе, начальнікам аддзела статыстыкі на мытні. Але ў пэўны час зразумела, што фотаздымкі — яе прызванне. Скончыла спецыялізаваныя курсы Вадзіма Качана і Ягора Вайнова. Здымае не дзеля грошай (упэўнена, што камерцыйнае фота — не мастацтва!), а дзеля прыгажосці.



На адным з фотаздымкаў, што можна было свабодна ўзяць на выстаўцы, Наталля напісала наступную цытату К. Боўві: «Чалавек, які ўбачыў прыгожае, — саўдзельнік яго стварэння». Напэўна, гэта дэвіз як яе творчасці, так і жыцця.

**Паліна ПЛАТАВА**

# «Пан Тадэвуш» у Парыжы



На мінулым тыдні ў Парыжы ў межах Дзён беларускай культуры ў Францыі адбыўся паказ прэм'ернага спектакля Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Пан Тадэвуш» у пастаноўцы Мікалая Пінігіна.

Спектакль «Пан Тадэвуш» — першая ў гісторыі пастаноўка беларускага рэжысёра на парыжскай сцэне. Сімвалічна, што адкрыццё Купалаўскага тэатра адбылося ў 1890 годзе паказам спектакля «Сфінкс» французскага аўтара Актава Фельe.

Прэм'ера, якая прайшла пры аншлагу, прымеркавана да 180-годдзя напісання Адамам Міцкевічам менавіта ў Парыжы аднайменнай паэмы. Паказ арганізаваны Пасольствам Беларусі ў Францыі і ўпершыню адбыўся пад ганаровым патранатам ЮНЕСКА.

Спектакль прайшоў на беларускай мове з французскімі субцітрамі ў тэатры МС93 у зале імя вядомага расійскага рэжысёра Алега Яфрэмава. Для сцэнічнага ўвасаблення пастаноўкі выкарыстаны пераклад беларускага літаратара Язэпа Семяжона, для трансліравацыі на французскую мову — пераклад Рабэра Буржуа.

Выступленне беларускіх артыстаў было цёпла ўспрынята французскім гледачом: на працягу дзесяці хвілін публіка стоячы віталa авацыямі беларускі тэатр.

Напярэдадні спектакля Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка, дыпламаты Пасольства, а таксама артысты Купалаўскага тэатра на чале з мастацкім кіраўніком Мікалаем Пінігіным усклалі кветкі да помніка Адаму Міцкевічу, усталяванага на плошчы Альмы на набярэжнай Сены ў Парыжы.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# «Байцы» друкаванага слова

Шмат гадоў мінула з таго часу, як прагучаў апошні залп салюта, які апавясціў пра заканчэнне Вялікай Айчыннай вайны. Сёння яе гісторыя — у памяці сучаснікаў, на старонках мастацкіх і перыядычных выданняў, якія займаюць пачэснае месца ў кніжніцах нашай краіны.


Смерць нямецкім акупантам!

Раздавім фашысцкую гадзіну

1942 г.

Малая партызанская энцыклапедыя

Газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі — не выключэнне. У фондах аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў захоўваюцца газеты-аднадзёнкі, газеты-лістоўкі, сярод іх — «Кліч Радзімы» Ельскага, «Красный партизан» Васілішскага падпольных райкамаў КП(б)Б, «Ленінец» — Плешчаніцкага райкама і Мінскага партызанскага злучэння, «Партизан Белоруссии» — Пухавіцкага РК КП(б)Б, «Партызанскае слова» — лістоўка-плакат Вілейскага абкама КП(б)Б, «Партизанский путь» — Круглянскага РК КП(б)Б. Маюцца таксама цэнтральныя, абласныя і раённыя падпольныя газеты, партызанскія, газета-агітплакат «Раздавім фашысцкую гадзіну» і невялікая колькасць прэсы, якая выходзіла на акупіраванай немцамі тэрыторыі.

Калекцыя падпольнага перыядычнага друку пачала збірацца ў 1960-я гады мінулага стагоддзя. У 1965 — 1966 гг. акадэмік Акадэміі навук Беларусі Кандрат Крапіва перадаў у Фундаментальную бібліятэку АН БССР (цяпер ЦНБ НАН Беларусі) камплект газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну» за 1942 — 1944 гг., які змяшчае амаль усе нумары за гэты перыяд. З таго часу і пачалося фарміраванне калекцыі перыядычных выданняў, якія з'яўляліся на Беларусі ў часы Вялікай Айчыннай.

У маі 1980 г. у бібліятэку паступіў архіў беларускага гісторыка, акадэміка АН БССР Івана Краўчанкі. Сярод дакументаў была падборка падпольных перыядычных выданняў. Яго калекцыя — вынік шматгадовай працы па пошуку і збіранні падпольнага перыядычнага друку. Калекцыя складаецца з газет (усяго 33 назвы), якія выдаваліся ў тыле ворага ў 1942 — 1944 гг. На многіх асобніках — асабістыя пазнакі І. Краўчанкі. У 1986 г. калекцыя папоўнілася беларускімі партызанскімі газетамі (62 назвы). Іх падарыў бібліятэцы журналіст Віктар Стальноў, які падчас вайны і ў пасляваенныя гады працаваў у розных рэдакцыях Беларусі. Сёння ў нас захоўваецца больш як 600 нумароў (каля 100 назваў) газет, якія выходзілі ў гады вайны.

Пытанням стварэння падпольных друкарняў у тыле ворага шмат увагі надаваў Панцеляймон Панамарэнка, які займаўся літаральна кожным падпольным


У падпольнай друкарні.

выданнем. Дарэчы, уласная бібліятэка сакратара ЦК КП(б)Б, начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху П. Панамарэнкі захоўваецца ў кнігасховішчы аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў. У свой час яе перадалі нашай кніжніцы нашчадкі палітычнага дзеяча.

Пра тое, у якіх цяжкіх умовах выходзіла падпольная партызанская прэса, распавядаюць анкеты рэдактараў газет. Гэтыя каштоўныя дакументальныя матэрыялы з архіўнага фонду І. С. Краўчанкі захоўваюцца ў рукапісным сектары аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў. Вельмі цікавыя «жывыя» факты прадстаўляюць былыя абаронцы Айчыны, якія ваявалі не толькі штыком, але і пяром.

Рэдактар газеты «Народны мсцівец» Н. Дастанка ў сваіх успамінах піша, што ў снежні 1942 г. у Загаллі (Любанскі раён) друкавалася слуцкая падпольная газета «Народны мсцівец». Выпускалі і лістоўкі. Спачатку шрыфт партызаны даставілі з нямецкай друкарні ў мястэчку Любань, друкарскі станок зрабілі самі. У сакавіку 1943 г. сакратар Слуцкага падпольнага райкама КП(б) Б. Кананові́ч прывёз з Масквы партатыўную машынку. Падчас налёту фашысцкай авіяцыі трэба было хутка зрывацца з месца і хавацца ў балотах, каб захаваць друкарскае абсталяванне. Па пояс у балотнай вадзе народныя мсціўцы прабіраліся з вострава на востраў. «У адным месцы фашысты нас моцна «зажучылі», як гаварылі мы пасля жартуючы... З плячэй знялі сухары, але не пакінулі шрыфт. Сем дзён у балоце не было ў нас крошкі хлеба, але за плячыма быў шрыфт…», — узгадваў потым Н. Дастанка.

На сваёй ролі ў тыле ворага падпольная газета «За Родину» (орган Брэсцкага антыфашысцкага камітэта) лічылася адной з лепшых і мела шырокае распаўсюджанне. Гэтае выданне чыталі не толькі ў Брэсцкай вобласці, але і за межамі Беларусі, у тым ліку ў Беластоку, Варшаве. Друкарня месцілася ў зямлянцы. Вартавалі яе два кулямётчыкі, але па сутнасці ахоўвалі мясцовыя сяляне. Пры з'яўленні фашыстаў сувязныя своечасова паведамлялі пра гэта партызанам, і на працягу 20 хвілін уся маёмасць друкарні хавалася.

Газета была змястоўная, выдатна аформленая, пісалася добрай мовай. Зверху, на першай паласе, прыцягваў увагу дэвіз: «Смерць нямецкім акупантам!» На другой старонцы — зводка Савінфармбюро, заметкі пра баявыя дзеянні партызан, звесткі пра зверствы фашыстаў.

Вядома, што «жывой» газета можа лічыцца толькі тады, калі грунтуецца на праўдзівых фактах. Падпольныя выданні былі менавіта такія. Актуальны матэрыял збіралі рознымі шляхамі: і праз сетку сваёй агентуры, і з дапамогаю мясцовага насельніцтва. Але гэтага было недастаткова. Газета павінна была пастаянна трымаць сваіх чытачоў у курсе падзей, якія адбываліся на фронце. На дапамогу падпольнаму друку прыходзіла радыё. Як правіла, усе рэдакцыі рэгулярна прымалі зводкі Савінфармбюро. Сотні радыстаў у тыле ворага штодня слухалі Маскву…

Яшчэ адна з крыніц інфармацыі — лісты, якія перапраўляліся ў партызанскія атрады. Кожны раз самалёты, якія накіроўваліся ў тыл ворага, везлі два-тры мяхі такіх лістоў.

У варожы тыл накіроўвалася і цэнтральная прэса. Асаблівую ролю адыграла газета «Правда», якая таксама скарыстоўвалася для падпольных газет і лістовак.

Вялікае значэнне мелі фотаздымкі і замалёўкі, якія змяшчаліся ў падпольных выданнях. Клішэ для газет работнікі друкарні часта рабілі самі. Звычайны кавалак сухой бярoсты, дубу, лінолеуму або гумы ў руках спрактыкаванага мастака ператвараўся ў вострую карыкатуру на ворага. Напрыклад, рэдактар асіповіцкай газеты «За Советскую Родину» (на жаль, нідзе не згадваецца яго імя) Трацэўскі на лінолеуме зрабіў карту, якая наглядна паказвала лінію фронту, што займала наша армія ў момант яе летняга наступлення ў 1943 г. Такія карты не раз змяшчаліся ў розных падпольных газетах.

Адна з самых распаўсюджаных форм падпольнага друку — насценныя газеты і баявыя лісткі, якія выпускаліся ва ўсіх брыгадах, атрадах у вялікіх і малых баявых партызанскіх злучэннях. На жаль, многае з гэтага загінула незваротна. Баявыя лісткі былі меншымі па памеры, але адказвалі на тыя ж пытанні, што і насценгазеты. У іх шмат пісалася пра ўнутраны распарадак партызанскага жыцця, закраналіся праблемы побыту народных мсціўцаў.

Адзін з такіх фаліянтаў — рукапісная газета «За Родину» (№ 12 ад 30 мая 1944 г.) партызанскага атрада «Косто Калинауско» — захоўваецца ў рукапісным фондзе № 23 «Коллекция» аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў.

Падпольныя газеты дастаўляліся рознымі шляхамі. Напрыклад, у Мінску распаўсюджваліся «Звязда», «Минский большевик», «Партизан Белоруссии», «Народный мститель», «Патриот Родины» і інш. Газеты часта праносіліся праз фашысцкія пасты ў малочных бідонах з падвойным дном, хаваліся ў пустацелую дугу альбо аглоблю воза. Нават здаралася і так, што фашысцкія і партызанскія газеты пакаваліся разам і нямецкая пошта развозіла іх па адрасах.

Вельмі часта распаўсюджванне падпольнага друку суправаджалася баявымі дзеяннямі партызан. Пра гэта ўспамінае сакратар Мінскага падпольнага абкама КП(б)Б Б. Варвашэня: «… у першых чыслах сакавіка 1942 года мы рашылі пасадзіць на падводы па 2 — 3 чалавекі, паставіць кулямёты на санычкі, да гэтага часу падрыхтавалі многа лістовак, у якіх расказвалі аб становішчы на франтах… Забралі гэтыя лістоўкі з сабой і ўночы у колькасці 300 падвод, чалавек 700, арганізавана рушылі па раёнах. Мы рабілі ачыстку раёнаў ад паліцэйскіх гарнізонаў і праводзілі работу сярод насельніцтва. Уночы робім шпаркі пераход кіламетраў на 40 — 50. Урываемся ў паліцэйскі гарнізон, збіваем яго, частку ў палон бярэм і тут жа з насельніцтвам вядзем работу, тут жа і лістоўкі даем, — калі ласка».

Падрабязную інфармацыю пра падпольныя партызанскія газеты, часопісы, плакаты, лістоўкі перыяду Вялікай Айчыннай вайны 1941 — 1945 гг. можна атрымаць у факсімільным выданні «І паўстаў народ...» выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», якое выйшла ў свет у 2005 г. і было прымеркавана да 60-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай. У каталогу прадстаўлены шматлікія падпольныя і партызанскія выданні: ад рэспубліканскіх, абласных, раённых газет да насценных лістовак і маладзёжных антыфашысцкіх бюлетэняў. Амаль усе яны, «байцы друкаванага слова», ацалелі ў тых вогненных і гераічных днях у адзінкавых экзэмплярах і сёння захоўваюцца ў фондах аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа.

**Алена ДЗЕНІСЕНКА,**
**навуковы супрацоўнік**
**аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў**
**Цэнтральнай навуковай бібліятэкі**
**імя Якуба Коласа НАН Беларусі**

# Прадугледжана заканадаўствам

Беларускія сенатары ўхвалілі ўнясенне змяненняў і дапаўненняў у закон «Аб бібліятэчнай справе». Згодна з ім прадугледжана стварыць пры Міністэрстве культуры Беларусі на грамадскіх пачатках Рэспубліканскі бібліятэчны савет. Яго дзейнасць будзе накіравана на выпрацоўку рэкамендацый па пытаннях у галіне бібліятэчнай справы, зазначыў міністр культуры нашай краіны Барыс Святлоў.

Дакументам устанаўліваюцца абавязковыя ўмовы для адкрыцця бібліятэк, у тым ліку маецца на ўвазе наяўнасць дакументаў з бібліятэчнага фонду ў колькасці не менш як 2000 экзэмпляраў, а таксама магчымасць заснавальніка кніжніцы забяспечыць яе будынкам або памяшканнем, што адпавядаюць умовам абслугоўвання карыстальнікаў і захаванасці фонду.

Плануецца сфарміраваць Дзяржаўны рэестр кніжных помнікаў, уласнікі якіх будуць абавязаны паведамляць упаўнаважанай арганізацыі пра змяненне звестак, унесеных у рэестр.

Законапраектам прадугледжваецца наяўнасць у краіне сукупнай сеткі бібліятэк, а таксама функцыянаванне на розных узроўнях каардынацыйных і метадычных цэнтраў сетак кніжніц.

Акрамя таго, замацоўваюцца новыя формы абслугоўвання карыстальнікаў: электронная дастаўка дакументаў, арганізацыя абслугоўвання па месцы жыхарства, работы, вучобы або адпачынку. Для тых, хто не можа наведваць бібліятэку па месцы жыхарства па стане здароўя, прадугледжана пераважнае права атрымліваць дакументы з фондаў публічных кніжніц праз нестацыянарныя формы абслугоўвання.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Мовай захаплення

Творчая вечарына паэта, скульптара, перакладчыка, кампазітара, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі, Беларускага саюза мастакоў і Беларускага саюза музычных дзеячаў Хізры Асадулаева «На языке восторга и любви…» адбылася ў межах пасяджэння літаратурнага клуба «Шчырасць» на базе сталічнай бібліятэкі № 22.

Хізры Газіевіч — ураджэнец высакагорнага сяла Карата (Дагестан, Ахвахскі раён), старшыня праўлення Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Гора», член Каардынацыйнага савета кіраўнікоў грамадскіх арганізацый пры Пасольстве Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь, а таксама міжэтнічнага савета пры ўпаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь. Яго пяру належыць мноства вершаў пра любоў да роднай мовы, да сваёй Радзімы.

Загадчыца бібліятэкі Наталія Ярашэвіч зазначыла, што Х. Асадулаеў валодае бязмежнай творчай энергіяй, духоўным патэнцыялам, што спрыяе з'яўленню з-пад яго пяра глыбінных паэтычных твораў. Акрамя таго, творца піша музыку, палотны, займаецца скульптурай.

Кіраўнік клуба «Шчырасць», старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў, адзначыўшы шматграннасць таленту Хізры Газіевіча, нездарма назваў яго грамадзянінам-патрыётам: творца ўжо больш як 30 гадоў жыве ў Мінску, але штогод стараецца разам з сям'ёй наведаць малую радзіму.

Х. Асадулаеў — пачынальнік сучаснай карацінскай літаратуры, аўтар трох паэтычных зборнікаў. Яго лірыка адметная лаканізмам і дэтальнасцю. Да ўсяго Хізры Газіевіч з'яўляецца і аўтарам перакладаў паэтычных твораў беларускіх, рускіх і замежных класікаў: Я. Купалы, Я. Коласа, Ф. Цютчава, М. Някрасава, С. Ясеніна, А. Хаяма, Дж. Кітса і г. д.

Падчас вечарыны публіка пабачыла прэзентацыю жывапісных, графічных, скульптурных работ творцы (апошнія акрамя нашай краіны ёсць у Расіі і Дагестане, палотны ж знаходзяцца ў музеях і прыватных калекцыях многіх краін свету), а таксама партрэтаў (у тым ліку жонкі і дачкі аўтара), што належаць яго пэндзлю. Асобныя карціны прысвечаны пейзажам Дагестана. У 2010 г. пабачыў свет аўтарскі альбом песень «Лірыка суровых гор».

**Арына КРАЙКО**



*Хізры Асадулаеў з курсантамі і выкладчыкамі ваенна-тэхнічнага факультэта БНТУ.*

# Альманах едзе ў Мюнхен

Нядаўна знакамітая Баварская дзяржаўная бібліятэка Мюнхена звярнулася да пісьменніка і журналіста Аляксандра Валковіча, рэдактара-складальніка Брэсцкага раённага краязнаўчага альманаха «Астрамечаўскі рукапіс», з просьбай пераслаць ім чарговы выпуск, які выклікаў цікавасць у жыхароў Германіі.

Кніжніца, заснаваная ў 1558 годзе, лічыцца найстарэйшай міжнароднай навуковай бібліятэкай сусветнага ўзроўню. Яе фонды налічваюць каля 9,39 мільёна тамоў і 92 тысячы рукапісаў. Яна вядомая таксама спецыяльнымі калекцыямі рэгіянальных, музычных выданняў, карт і выяўленчых выданняў краін Усходняй Еўропы, Усходу і Усходняй Азіі. Вось і «Астрамечаўскі рукапіс» з яго фальклорна-гістарычнай, культурна-музычнай, краязнаўчай скіраванасцю зацікавіў найбуйнейшае кнігасховішча Еўропы.

Першапачатковa прадстаўнікі бібліятэкі адшукалі па розных каналах кнігу А. Валковіча «Лета чырвоных коней: палеская элегія», якая выйшла невялікім накладам у 2012 годзе ў Брэсцкім выдавецтве «Альтэрнатыва». Выданне значылася ў каталогу Баварскай дзяржаўнай бібліятэкі, а вось у наяўнасці яго не было.

Потым нямецкія спецыялісты зацікавіліся дакументальным зборнікам «Пісьмы вайны», праектам, які атрымаў «Залатую ліцеру» Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ падчас святкавання 65-годдзя вызвалення нашай рэспублікі ад фашысцкіх захопнікаў. І ўжо потым увага замежных бібліёграфаў пераключылася на рэгіянальны фальклорна-гістарычны альманах, які выдаецца пры падтрымцы Брэсцкага раённага выканаўчага камітэта. Усе згаданыя выданні днямі адправіліся ў Мюнхен.

Што ж датычыць «Астрамечаўскага рукапісу», то яго чарговы, шосты, нумар хутка ўбачыць свет.

**Аляксандр ВАЙГАЧ**

# Прачытаў? Падары другому

Новы праект «Bookcrossing: вольная медыятэка UPECO» рэалізуецца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Яго ідэя палягае ў тым, каб падзяліцца асабістымі кнігамі, пакідаючы іх у грамадскіх месцах. Працэс абмену заснаваны на прынцыпе «прачытаў — перадай іншаму».

У БДУ «бяспечныя паліцы» размешчаны ў галоўным корпусе. Спецыяльны стэлаж з шыльдай «Буккросінг» напоўнены кнігамі, якія прадставілі супрацоўнікі БДУ. Гэтая «вольная бібліятэка» не прадугледжвае абавязковай рэгістрацыі і афармлення білета чытача. Скарыстацца фондам можа любы чалавек, і пры гэтым неабавязкова вяртаць кнігу на паліцу. Такім чынам маркуецца павялічыць колькасць бібліяфілаў у Белдзяржуніверсітэце і далучыцца да міжнароднага руху ператварэння свету ў «велізарную бібліятэку».

Ідэя рэалізацыі гэтага праекта ў БДУ належыць упраўленню выхаваўчай работы. Як адзначыла метадыст аддзела маладзёжнай палітыкі і маніторынгу інфармацыйнай прасторы ўпраўлення Наталля Капацэвіч, тут вельмі спадзяюцца, што праект будзе прыняты студэнцкай і выкладчыцкай аўдыторыяй, і разлічваюць на хуткае запаўненне маленькага стэлажа кнігамі розных жанраў з асабістых бібліятэк супрацоўнікаў і студэнтаў. Акрамя таго, у бліжэйшы час з'явіцца сшытак для запісаў «Шукаю кнігу», каб былі задаволены ўсе чытацкія запыты. Для гэтага неабходна ўказаць імя аўтара або назву твора, з якім хочацца пазнаёміцца.

**Раіса МАРЧУК**

*Імпрэзы*

# За перастворaным радком…

**Вечарына перакладной паэзіі «У лучнасці братняй», арганізаваная сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ, адбылася днямі ў сталічнай бібліятэцы № 7.**

У якасці музычнага ўступу некалькі ўласных песень выканала бард Марына Заманас. Загадчыца бібліятэкі Людміла Каляда зазначыла, што апошнім часам творчыя сувязі кніжніцы з СПБ умацаваліся (сёлета тут прайшло арганізаванае сумесна з МГА СПБ свята гумару «Жартуюць беларусы»).

Паэт Мікола Чарняўскі звярнуў увагу на вялікую працу СПБ па наладжванні стасункаў з замежнымі творцамі. Ён распавёў, што цягу да перакладу адчуў яшчэ ў школьныя гады. А першай пробай пяра ў гэтай галіне быў пераклад на беларускую пушкінскай «Сказки о золотом петушке», які, на жаль, не захаваўся. Па словах Міколы Мікалаевіча, калі пачынаеш займацца перакладчыцкай дзейнасцю, паступова ўваходзіш у смак. Аўтар прадставіў публіцы свае вершы, у тым ліку і з кнігі «Як зрабіць вясёлым дзень» (2012), у якую ўвайшлі вершы і казкі замежных аўтараў, перастворaныя ім па-беларуску. Распавёў творца і пра асабістыя стасункі з туркменскім паэтам Азатам Рахманавым, украінскім паэтам-сатырыкам Алесем Жалдаком, іншымі творцамі.

Паэт, скульптар, перакладчык, кампазітар, член СПБ, Беларускага саюза мастакоў і Беларускага саюза музычных дзеячаў Хізры Асадулаеў (больш як 30 гадоў ён жыве ў Мінску) прачытаў на вечарыне верш А. С. Пушкіна «Я помню чудное мгновенье…» ва ўласным перакладзе на карацінскую мову. Публіцыст і паэтэса Вольга Норына прадставіла на імпрэзе ўласны пераклад верша Наталлі Хаткінай (псеўданім — *старушка Х.*) «Виноватая кошка» на беларускую мову. Паэтэса і бард Алена Свечнікава, якая некаторы час жыла ў Літве, прапанавала глядацкай увазе пераклады з літоўскай на рускую твораў Уладаса Мазурунаса, Алаізаса Баронаса і фрагменты паэмы Эдуардаса Межэлайціса «Инфляция», а таксама некалькі ўласных песень.

Вершы айчыннай творцы Валянціны Палiканінай, перастворaныя па-беларуску, прадэкламавала аўтар перакладу І. Фралова. У кніжніцы гэтым вечарам у аўтарскім выкананні гучалі таксама вершы Дзмітрыя Пятровіча, Таццяны Лебедзевай, Яны Явіч і Вольгі Шпакевіч.

Падчас імпрэзы гледачы пісьмова адказвалі на пытанне: «Што для вас паэзія?» Аўтары лепшых адказаў атрымалі ў падарунак кнігі ад Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.

**Дана ХОДНІЧ**

*Цікава ведаць*

# На добрую асвету

Лепшыя выданні з кніжнага збору музея дзяржаўнай гісторыка-культурнай установы «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль» прадстаўлены на выстаўцы «Кнігі, у якіх захоўваецца час».

Граф Мікалай Румянцаў быў вядомым калекцыянерам і бібліяфілам. Яго кніжніца налічвала больш як 30 тысяч друкаваных кніг і рукапісаў. Гэты багаты збор Мікалай Пятровіч завяшчаў суайчыннікам «на добрую асвету». Пазней кнігі Румянцава склалі аснову Расійскай Дзяржаўнай бібліятэкі.

Выдатная кніжная калекцыя належала і наступным уладальнікам гомельскага палаца — сям'і Паскевічаў. У іх кніжніцы значыліся выданні па гісторыі, філасофіі, прыродазнаўстве, творы рускіх і замежных пісьменнікаў і паэтаў, многія з іх — на мове арыгінала. На жаль, вялікая частка гэтага ўнікальнага збору згубленая.

Памятаючы пра выдатныя традыцыі, якія існавалі ў Гомельскім палацы пры яго гаспадарах, супрацоўнікі музея пастаянна папаўнялі кніжную калекцыю. Сёння тут больш як 1500 найменняў кніг і часопісаў самай разнастайнай тэматыкі і скіраванасці. Найбольш яркія і цікавыя выданні з фондаў музея дэманструюцца на згаданай выстаўцы.

**Бажэна СТРОК**

# Кахаць і верыць

Такую назву насіла сустрэча з маладой пісьменніцай, адказным сакратаром Камянецкай раённай газеты «Навіны Камянеччыны», кандыдатам у члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Настассяй Нарэйка ў Камянецкай раённай бібліятэцы імя У. Ігнатоўскага. Госці імпрэзы азнаёміліся з калектыўным зборнікам твораў маладых пісьменнікаў «Кахаць і верыць», у які ўвайшло чатыры апавяданні Настассі, і яе першай уласнай кнігай «Магдэбургскае права маёй душы».

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

# Класіка ў гістарычным антуражы

**Пяты класічны open-air фестываль «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў» прайшоў з 20 па 22 чэрвеня ў Нясвіжы. Падобныя мерапрыемствы карыстаюцца велізарным поспехам як у заўзятых меламанаў і тэатралаў, так і ў турыстаў і аматараў загараднага адпачынку.**

Аддаючы даніну модзе і перавагам гледачоў, найбуйнейшыя тэатры свету зрабілі open-air фестывалі і канцэрты абавязковым пунктам сваіх афіш. Спектаклі «адкрытага» фармату праходзяць на гістарычных пляцоўках, у старадаўніх замках, а часам і цэлы горад ператвараецца ў гіганцкую тэатральную сцэну.

Фэст у замку Ладлоу (Вялікабрытанія), у французскім Эксе, на знакамітай плывучай сцэне ў аўстрыйскім Брэгенце, Оперны фэст у замку *Alden Biesen* (Бельгія), Оперны форум імя Джакама Пучыні ў Торэ дэль Лага (Італія), фестываль на *Arena Di Verona* ў італьянскай Вероне вядомыя ва ўсім свеце, іх наведваюць дзесяткі тысяч гледачоў... вядомыя ва ўсім свеце, іх наведваюць дзеячы мастацтваў, кіраўнікі тэатраў, музыканты, палітыкі, бізнесмены, шматлікія знакамітасці, заўзятыя тэатралы і адданыя прыхільнікі класічнага мастацтва.

Беларускі Вялікі тэатр «трымае руку» на пульсе модных плыняў. Культурны праект «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў», што падтрымлівае выдатную еўрапейскую традыцыю фестываляў пад адкрытым небам, за гады існавання набыў свой індывідуальны стыль і стаў папулярным як у заўзятых меламанаў і тэатралаў, так і ў аматараў адпачынку на прыродзе ў гістарычным антуражы. Невыпадкова месцам яго правядзення быў абраны адзін з найпрыгажэйшых палацава-паркавых ансамбляў Еўропы.

У гэтым годзе ў праграму фэсту былі ўключаны «хітовыя» назвы оперных і балетных пастановак, якія прайшлі выпрабаванне часам і атрымалі велізарную любоў гледачоў, а таксама навінкі тэатральнага рэпертуару.



*Балет «Шэсць танцаў» Іржы Кіліяна.*

Традыцыяй «Вечароў» сталі сустрэчы з салісткай Вялікага тэатра Таццянай Трацяк і струнным квінтэтам «Серэнада», якія штогод у першы дзень фестывалю прадстаўляюць новую праграму ў Тэатральнай зале замка Радзівілаў. Гэтым разам артысты падрыхтавалі канцэрт «Мелодыі кахання», у які ўвайшлі папулярныя кампазіцыі розных гадоў і музычных кірункаў.

Разыначкай «Вечароў» стаў паказ самай папулярнай оперы ў свеце — «Кармэн». Гэта пастаноўка ўваходзіць у рэпертуар усіх оперных труп і выконваецца на многіх мовах. Папулярнасць несмяротнай музычнай драмы Жоржа Бізэ пра каханне і свабоду не абмяжоўваецца толькі opернай сцэнай. Мелодыі з «Кармэн» гучаць паўсюдна, а драматычны сюжэт пра фатальную прыгажуню, якая разбівае мужчынскія сэрцы, вядомы ўсім і кожнаму. Выбар гэтага спектакля для адкрыцця фестывалю стаў надзвычай удалым. Больш як тысяча гледачоў, што сабраліся ва ўнутраным дворыку замка, нягледзячы на халоднае для чэрвеня надвор'е, вельмі цёпла прымалі артыстаў Вялікага тэатра. Галоўныя партыі ў спектаклі Андрэя Галанава выканалі вядучыя салісты Вялікага тэатра Беларусі Аксана Якушэвіч, Эдуард Мартынюк, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Анастасія Масквіна і народны артыст Беларусі Уладзімір Пятроў.

Важнае месца ў творчай праграме форуму займае нацыянальнае акадэмічнае музычнае мастацтва. У гонар юбілею выбітнага беларуска-польскага кампазітара XIX стагоддзя Станіслава Манюшкі, 195 гадоў з дня нараджэння якога споўнілася ў маі, Вялікі тэатр Беларусі прадставіў канцэртную праграму «З Ойчам адвечны». Яго харавыя творы рэлігійнай тэматыкі, а таксама некалькі песень на вершы Яна Чачота прагучалі днём 21 чэрвеня ў адным з найпрыгажэйшых касцёлаў краіны — касцёле Божага Цела ў Нясвіжы ў выкананні заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Громава і хору Вялікага тэатра пад кіраваннем народнай артысткі Беларусі Ніны Ламановіч.

Вечар быў прысвечаны харэаграфічнаму мастацтву. Ва ўнікальным прэм'ерным праекце «Вечар балета: з стагоддзя XIX у XXI стагоддзе» Вялікі тэатр Беларусі прапанаваў прасачыць гісторыю бессюжэтнага танца ў яго шэдэўрах, убачыць бліскучыя пастаноўкі майстроў сучаснасці. У праграму былі ўключаны мініяцюры «Па-дэ-катр» і «Свята кветак у Чынзана», «Па-дэ-сіс» з балета «Эсмеральда», а таксама знакамітыя «Серэнада» ў харэаграфіі Баланчына і «Шэсць танцаў» Іржы Кіліяна. Нягледзячы на вельмі складаныя ўмовы надвор'я, у якіх вымушаны былі працаваць артысты, балетны вечар у Нясвіжы прайшоў з велізарным поспехам.



*Аксана Якушэвіч у ролі Кармэн.*

У апошні дзень фестывалю Вялікі тэатр Беларусі пазнаёміў з творчасцю Антоніа Сальеры. Гледачы, якія прыйшлі днём 22 чэрвеня ў Тэатральную залу замка Радзівілаў, змаглі пачуць прэм'ерную камерную оперу Сальеры «Спачатку музыка, потым словы», сюжэт якой прысвечаны тэатральнаму закуліссю, і пераканаўца ў выбітным таленце кампазітара. Фінальным акордам музычнага марафону ў Нясвіжскім замку стаў грандыёзны Гала-канцэрт зорак Вялікага тэатра Беларусі. Лепшыя фрагменты з вялізнага і шматстайнага тэатральнага рэпертуару выканалі зоркі беларускай opернай і балетнай сцэны.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ,**
**фота з архіва Вялікага тэатра Беларусі**

# Ода прыгажосці

**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы праходзіць вернісаж выстаўкі партрэта Аксаны Аракчэевай «Для тых, якіх люблю». Назва (словы Янкі Купалы) адлюстроўвае трапяткое стаўленне мастачкі да асоб, якія натхняюць яе на творчую працу.**

Экспазіцыя атрымалася рознабаковай. Па-першае, тут прадстаўлены партрэты класікаў беларускай літаратуры: Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча. Як знак любові і народнай памяці на выстаўцы можна ўбачыць партрэт Генадзя Бураўкіна. А. Аракчэева працавала над ім гэтай зімой.

Па-другое, экспазіцыя стала своеасаблівай одай прыгажосці: між твораў вылучаюцца партрэты спадарыні Мэйсам Хадзі, якая прысутнічала на адкрыцці выстаўкі разам з мужам — Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Рэспублікі Ірак у Беларусі Хайдарам Мансурам Хадзі Аўэйсам. Прадстаўлены і іншыя жаночыя партрэты: гэта вельмі блізкія і дарагія мастачцы асобы. «Мне заўсёды хочацца падараваць сябрам свята — свята партрэта, усмешкі і сонца, — расказвае Аксана Аракчэева. — Сёння я шмат вандрую, таму пішу не так часта. Апошнім часам дазваляла сабе крыху эксперыментаваць, напрыклад, спалучаць графіку і жывапіс. Экспазіцыя ў Купалавым доме — своеасаблівая творчая справаздача ў галіне партрэта».

Карані творчасці Аксаны Аракчэевай — у яе сям'і. Адна з лепшых работ экспазіцыі — «Мой тата», партрэт мастака Барыса Аракчэева, бацькі і настаўніка, які любіў і паэзію. Апошняй работай гэтага творцы, што нарадзіўся і вырас у Расіі, быў партрэт Янкі Купалы, падараваны музею. Год таму менавіта ў музеі беларускага Песняра ладзілася выстаўка, прысвечаная светлай памяці Барыса Аракчэева.

З адкрыццём вернісажу А. Аракчэеву павіншаваў першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Аляксандр Дранец: «Ёсць людзі, шчодра адораныя ад Бога, на мой погляд, галоўным талентам — любіць жыццё і любіць людзей. Такая і Аксана — сапраўднае ўпрыгожанне нашага саюза».

Мастачка верыць, што нават у пахмурны дзень яе работы ўсцешаць душу святлом.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**



*«Мой тата», 2010 г.*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:** 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:** 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:** Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства** «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2490.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 26.06.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2395.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686